
У Міколы Цудатворца → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Міклашы → 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 20 (3236) Год LXIII Беласток, 20 мая 2018 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



❖Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Хары захапілі мастацкім выкананнем

■ Гран-пры фестывалю атрымаў хор мітрапаліцкай акругі Расійскай праваслаўнай царквы ў Рэспубліцы Казахстан з Алма-Аты

**XXXVII Міжнародны фестываль «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі», які ад 7 да 12 мая ў вельмі радасны велікодны перыяд праходзіў у асноўным у Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы, адзначаўся багаццем рэпертуару і разнароднасцю хароў, якія прыехалі ў Гайнаўку з Польшчы, Беларусі, Украіны, Расіі, Латвіі, Румыніі, Кіпра і Казахстана. Шматлікая публіка захаплялася мастацтвам царкоўнай музыкі, але вельмі важнай была духоўная ангажаванасць харыстаў падчас спеву.**

Фестываль арганізаваўся з благаславенства мітрапаліта варшаўскага і ўсяе Польшчы Савы і пад ганаровым патранатам прэзідэнта РП Анджэя Дуды. Каля 30 хароў удала запрэзентаваліся з багатым рэпертуарам у гайнаўскім саборы. Частка фестывальных выканаўцаў выступіла з канцэртамі царкоўных твораў і свецкіх песень у іншых мясцовасцях. Прыхадскія харысты падчас багаслужбаў выконваюць царкоўныя песнапенні як малітвы і так стараліся займальна заспяваць у час фестывалю. Свецкія хары запрэзентавалі царкоўную музыку на вельмі высокім мастацкім узроўні і захапілі разнароднасцю рэпертуару на розных мовах. Пасля малітваў, якія ўзначаліў мітрапаліт Сава, 7 мая адбылося адкрыццё фестывалю. Мітрапаліт звярнуў увагу на духоўнасць царкоўнай музыкі і яе значэнне як малітвы, адзначыў ангажаванасць арганізатараў Міжнароднага фестывалю «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі» у карысць Праваслаўнай царквы і грамадства.

— Кожны спеў, а асабліва царкоўны, служыць замацаванню дабра і еднасці сярод людзей. Царкоўны спеў гэта наша духоўная культура, — сказаў мітрапаліт Сава і звярнуў увагу, што сёлетні выпуск фестывалю супадае з сотай гадавінай незалежнасці Польшчы, пасля чаго ў дваццатых гадах мінулага стагоддзя Праваслаўная царква на тэрыторыі Рэчы Паспалітай атрымала аўтакефалію. Мітрапаліт заявіў, што гайнаўскі фестываль стварае атмасферу роздумаў, перажыванняў і ўзаемнай пашаны.

Дырэктар фестывалю мітрафорны протаіерэй Міхаіл Негярэвіч прывітаў сабраных, якія запоўнілі Свята-Троіцкі сабор, падзякаваў прэзідэнту РП за ганаровы патранат над фестывалем і шматлікім спонсарам за дапамогу ў арганізацыі XXXVII Міжнароднага фестывалю «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі», паколькі Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны не прызначыла фінансавай дапамогі на сёлетні фестываль. Разам з мітрапалітам Савам на інаўгурацыю фестывалю прыбылі архіепіскап люблінскі і холмскі Авель, архіепіскап бельскі Грыгорый, епіскап гайнаўскі Павел, праваслаўныя і каталіцкія святары, пасол Рэспублікі Беларусь у РП Аляксандр Авяр'янаў, падляшскі ваявода Багдан Пашкоўскі, маршалак Падляшскага ваяводства Ежы Ляшчынскі і многа іншых гасцей. Фестываль адкрыў бургамістр Гайнаўкі Ежы Сірак, які заявіў, што Міжнародны фестываль «Гайнаўскія дні царкоўнай музыкі» гэта вельмі важная духовая і культурная падзея для жыхароў Гайнаўкі і прыезджых удзельнікаў свята царкоўнай музыкі. У час інаўгурацыйнага дня фестывалю галоўны рэдактар штомесячніка «Przegląd Prawosławny» Яўген Чыквін і старшыня капітула ўзнагароды імя князя Канстанціна Астрожскага Анна Радзюкевіч уручылі ўзнагароды, якія сёлета атрымалі Люблінска-Холмская епархія (была перададзена архіепіскапу Авелю), айцец Джон Брэк і Кшыштаф Тур. Залаты ордэн святых Салунскіх братоў атрымаў стараста Гайнаўскага павета Міраслаў Раманюк. Ордэн ад некалькіх гадоў прызначае Праваслаўнае брацтва свсв. Кірылы і Мяфодзія. Старшыня брацтва Васіль Піўнік адзначыў, што стараста Міраслаў Раманюк узнагароджваецца за падтрымку дзейнасці Кірыла-Мяфодзіеўскага брацтва і за працу ў карысць грамадства. Падчас інаўгурацыйнага канцэрта публіку захапіў пазамінулагодні пераможца фестывалю Акадэмічны хор студэнтаў Харкаўскай дзяржаўнай акадэміі культуры з Украіны, якім дырыжыраваў Вячаслаў Бойка.



■ Хор Акадэмічнага ансамбля песні і танца Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь з Мінска заняў першае месца

Асаблівым хорам, які прыехаў з Азіі, выдатна паказаў майстэрства выканання царкоўнай музыкі, яе духоўнасць і атрымаў узнагароду Гран-пры фестывалю, быў хор мітрапаліцкай акругі Расійскай праваслаўнай царквы ў Рэспубліцы Казахстан з Алма-Аты. Хор прыехаў з вялікай краіны, дзе праваслаўныя ў меншасці, але запрэзентаваў вельмі высокі мастацкі ўзровень выканання царкоўных твораў і гэта вялікая заслуга дырыжора Алега Аўчыннікава, які выдатна падрыхтаваў сваіх харыстаў да фестывалю. Сказаў ён, што частку хору састаўляюць мусульмане, якія стараюцца перадаць царкоўную музыку з вялікай эмацыйнай ангажаванасцю і любоўю. Хары, у якіх выступалі дзеткі і моладзь, сёлета саставілі вялікую колькасць конкурсных удзельнікаў фестывалю. Запрэзентаваліся яны на высокім мастацкім узроўні і сваімі выступамі захапілі публіку ў саборы. У першы дзень конкурсных слуханняў займальна спявалі вучні дзіцячага хору Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы (атрымаў вылучэнне і заспяваў падчас гала-канцэрта). Пасняхова кіруе ім Юстына Марчук, якая патрапіла зацікавіць харавым спевам звыш сарака дзяўчат і хлопцаў, што спяваюць побач маладзёжнага хору падчас ранніх нядзельных літургій у гайнаўскім саборы. Публіку зацікавіў таксама дзіцячы хор «Шышкін лес» Прыхода Нараджэння св. Іаана Хрысціцеля ў Гайнаўцы, з якім паспяхова займаецца Паўліна Скепка. Радасна і стройна заспяваў дзявочы хор Прачысценскай царквы ў Бельску-Падляшскім, якім дырыжыруе Анна Фіта (атрымаў вылучэнне). Майстэрства ў галіне выканання царкоўнай музыкі паказаў хор «Фэст» з Мінска (Беларусь), у якім займальна выступілі дзеткі пад кіраўніцтвам Элеаноры Старажук, захапілі публіку і журы фестывалю ды занялі другое месца ў сваёй катэгорыі. Цікава запрэзентаваўся таксама хор «Журавінка» з Мінска (дырыжор Людміла Куцэлай), які дзейнічае ў адной са школ сталіцы Беларусі. На высокім мастацкім узроўні ў катэгорыі дзіцяча-маладзёжных хароў запрэзентаваліся выканаўцы з Украіны — хор «Аксіёс» з Крывога Рога (заняў першае месца) і Харкаўскі юнацкі хор (другое месца) ды хор «Лампада» з Курска ў Расіі (трэцяе месца). Займальны спеў і культурную адметнасць Румыніі паказаў маладзёжны хор «Vivat Musica» з Сучавы (атрымаў вылучэнне).

У катэгорыі прыхадскіх гарадскіх хароў выдатна і ў малітоўным настроі царкоўныя творы запрэзентаваў кафедральны хор Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы, якім кіруе іерэй Павел Коршак, і заняў трэцяе месца. Апярэдзіў яго толькі хор Парафіі Агія Сафія ў Беластоку,

працяг ☞ 5





# Ля нулявога кіламетра

Няма ў Гародні аніякага помніка Леніну. І ў Беларусі няма аніводнага. І што самае галоўнае, ніколі і не было. Ну я пасля растлумачу сваю думку наконт гэтага, на першы погляд дзівакаватага сцвярджэння. А зараз крыху па слядах апошніх падзей наконт збору подпісаў за знос, ці перанос, ці змену месца паркоўкі бронзавай выявы Уладзіміра Ільіча. Як гэта не назаві, а сутнасць адна — ідзе збор подпісаў, каб прыбраць манумент важака кастрычніцкага перавароту з цэнтральнай плошчы старадаўняга горада над Нёманам.

— О! Вы з Гародні, — прыходзіцца даволі часта чуць захапляльны воклiч, калі незнаёмыя людзі даведваюцца, што ты з гэтага слаўнага і старадаўняга горада. — Гэта ж Гародня! Там у вас гісторыя на кожным кроку ахутвае сваім старадаўнім подыхам і даўніна распавядае сама пра сябе!

Вось такое ўражанне маюць іншагароднія пра Гародню. І не толькі беларусы. І папраўдзе гаворачы, людзі шчыра вераць у тое, што ёсць так, як павінна быць. Ну а як жа інакш! Ну мусіць жа і на нашай шматпакутнай зямлі хоць дзе-небудзь, хоць у адным асобна ўзятым горадзе быць так, як быць павінна. Толькі ці ёсць яно так? Вось пытанне!

Калі пра гісторыю, то напэўна яна ёсць. Багатая гісторыя. Гісторыя мільярдэр, сказаў бы хтось на сённяшні лад. І не памыліўся б. Бо гісторыя Гародні значна багацейшая за цяперашні бюджэт не толькі абласнога цэнтра, але можа і ўсёй краіны, а можа і не адной. Ну гэта так, візуальны прыклад для вобразнасці ўспрымання гістарычнага багацця. І пра культурную спадчыну можна напісаць не менш маляўнічы сюжэт. І пра велічную баявую славу таксама. Чаго толькі варты ўспамін пра слаўныя дні БНР у Гародні. Сто год нядаўна святкавалі. А каралі, рыцары, мастакі, паэты, пісьменнікі, музыкі і іншы, можа менш вядомы, але не менш важны люд, дзякуючы якому горад і набыў прывабную рэпутацыю.

Ды вось у манументальнай архітэктуры ўсё гэтае багацце чамусьці не на першым месцы. І ясна чаму! Бо першае месца занятае. З якога кутка горада не пойдзеш у старадаўні цэнтр, як рана ці позна ўпрэшся ў бронзавую постаць, якая тое першае месца і займае. Акурат ля гарвыканкама, аблвыканкама і нулявога кіламетра. З гэтага нулявога яна даўно не можа зрушыцца, і не дае зрушыцца нікому і нічому. Таму што гэта не помнік! Гэта сімвал!

Проста помнік, нават калі і не да месца пастаўлены, не змог бы перашкодзіць руханню ні ідэям, ні эканоміцы, ні культуры, ні краіне ў патрэбным кірунку. Сімвал можа, бо светам кіруюць менавіта сімвалы. І той, хто іх наставіў на беларускай зямлі гэта добра ведаў. Таму і кажу, не помнікі гэта. Няма ў нас такіх помнікаў. А сімвалаў хоць салі.

Вось ён стаіць, дагледжаны, пры ўладзе і ахове, велічны сімвал чужой ідэалогіі. Смела глядзіць ён на горад, у якім ніколі не быў і помсціць кожнаму за любасць да свайго, за цягу да свабоды, за вальнадумства, за смеласць, за нежаданне быць скотам...

Ужо неаднойчы я пісаў пра гэта. Дык чаго паўтарацца? Можна ж напісанае раней прапанаваць. Дык чаму ж цяпер зноў не вытрымаў? Таму, што цешуся. Вось некалі, пасля падобнага артыкула да мяне і Уладзіміра Хільмановіча, з якім мы калісьці распачалі чарговую кампанію за знос гэтага манумента, падышлі маладыя гарадзенцы, каб узяць інтэрв'ю як мы гэта рабілі. Нам крыўдна стала. А Хільмановіч нават не вытрымаў.

— А што, мы дамагліся ўжо свайго, што ўспаміны пісаць будзем?! — наехаў ён на іх. — Пакуль няма чым хваліцца. А рабіць ёсць што. Вунь, асадкі маеце, ну то ідзіце да людзей і хаця б збірайце подпісы, пакуль апошні гарадзенец не падпішацца.

Тыя пайшлі, але не збіраць. Таму тады было нам сумна. А вось зараз з'явіліся іншыя, якія можа і не ведаюць, што нехта і да іх змагаўся з гэтым сімвалам, затое ведаюць, што з тым сімвалам рабіць. І таму ён, гэты сімвал, ужо зрушыўся з нулявога кіламетра. Як мінімум у духоўным вымярэнні. Астатняе прыкладзецца. Бо як сцвярджае старая беларуская прымаўка — пачатак, гэта палова справы.

Ну а які сімвал паставіць у цэнтры горада, каб і ўсё астатняе зрушыць з нулявога кіламетра, выбар вялікі. А можа проста паставім не сімвал, а помнік. Нарэшце помнік.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Вынік Звера

Людзі маюць розныя фобіі. Адной з іх з'яўляецца непераадольны страх перад лічбай 13. Па-вучонаму называецца гэта трыскаідэкафобіяй. Трэба прызнаць, што гэта нязграбнае слова. Але ёсць яшчэ большыя крывулі — як паказана ніжэй. Што тычыцца ліку трынаццаць, невядома, чым ён страшыць. Няма, аднак, ніякіх сумневаў, што не дае спакою. Я прызнаю, што я сам вельмі баюся яго, але на самой справе я не магу знайсці рацыянальную прычыну, каб трэсці перад ім ягадзіцамі. На жаль, я дрыжу. Каб яшчэ Адольф Гітлер нарадзіўся трынаццатага, ці Сталін. Гэта былі б нейкія доказы няшчаснасці трынаццаткі. У мінулым мая сям'я пацярпела ад аднаго і другога. Але куды там! Трынаццатага не нарадзіўся нават Аляксандр Лукашэнка. Ужо пра Яраслава Качынскага не згадваю. У лепшым выпадку, яны маюць з лікам 13 толькі тое агульнае, што для сваіх суайчыннікаў яны больш чым няшчасце. Прынамсі, я думаю, што яны такімі ёсць. Іншая справа, што выкліканая гэтымі двума чалавекамі ў грамадствах Беларусі і Польшчы меркаванне пра іх няшчаснасць або і фатальнасць блізкае акультызму, з'яўляецца крайнім. Для некаторых гэта выратавальнікі нацы, для іншых амаль апакаліптычныя Звяры. Асабліва, што апошнія знаходзяцца ў жаласнай меншасці. Хай бы большасць з іх не пераканалася занадта позна, што паміж выратавальнікамі нацы і Зверамі праходзіць тонкая, субтыльна тонкая мяжа. Ну, калі я не памыляюся.

Пра лік 13 я спрабаваў з усіх сіл, каб не думаць. Лепш было мне без яго. Больш радасна. Упэўнена. Я амаль забыўся пра яго. Але ж ён дагнаў мяне. І гэта адбылося ў ходзе чытання кнігі пра майго «коніка», г.зн. архітэктуру сярэднявечных сабораў. Чытаў у ёй, што нейкі майстар Эразмус, калі разбурылася сцяна сабора, якую старанна клаў на працягу 12 гадоў, 11 месяцаў і трох тыдняў, з-за адчаю павесіўся ў руінах на пенькавай вяроўцы. Толькі што на гэтай вяроўцы былі завязаны... 13 вузлоў. Гэта нейкае прадвесце! — усклікнуў я. Ці гэта рэцыдыў трыскаідэкафобіі? Для ўсяго я правёў невялікае даследаванне. І вось што атрымалася. У сярэднявеччы шнур з трынаццаці вузлоў, званых таксама вяроўкай друідаў, быў адным з асноўных інструментаў кафедральных будаўнікоў. Як кельня або цыркуль. Значна раней яго «вынайшлі» старажытныя вавілоняне, выкарыстоўваючы яго ў якасці простага струннага інструмента, напрыклад, у будаўніцтве вялікіх будынкаў. Простым шнурком можна вызначыць трохкутнік, калі адзін кут з'яўляецца прамым вуглом. Хопіць шнур падзяліць на дванаццаць секцый, пазначаных трынаццаццю вузламі, каб стварыць славуты трохкутнік. Самы вядомы з прапорцыяй бакоў 3:4:5! І надзейна, так як кут паміж бакавымі паверхнямі трох ці чатырох адзінак мае дыяганаль з 5 адзінкамі і павінен быць простым. Ці дадалі вы 3,4 і 5? І як не баяцца трынаццаткі. На самой справе, фобія „13" з бярэцца з нічога. Калі ласка, толькі не пытайцеся, з чаго. Я не ведаю. Я ведаю, аднак, што трыскаідэкафобія з'яўляецца адным з самых выродлівых слоў, якія я ведаю. Але, але... па крайняй меры, адно з іх больш пакрыўленае. Гексакасыіегексаконтагексафобія — страх перад лікам 666.

Лік 666 з'яўляецца акультным значэннем, таму што дадзена як лік Звера ў Адкрыцці святога Яна: «І ніхто не можа ні купіць, ні прадаць, калі не мае знаку, імені звера або лічбы імені ягонага. Тут ёсць мудрасць. Хто мае розум, няхай падлічыць лічбу звера, бо гэта лічба чалавека. А лічба яго шэсцьсот шэсцьдзясят шэсць» (Ап 13,17-18).

Для яснасці, мяркуецца, што лік 666 ставіцца да нумералагічнай сістэмы, званай іўрыцкай гематрыяй, у якой літарам алфавіту адпавядаюць лікі. Нумералогія ў габрэйскай традыцыі гэта мастацтва. Гэта сапраўдны эзатэрычныя веды, але поўныя. Тым не менш, літары размешчаны па-рознаму ў габрэйскім алфавіце, а іншым чынам у беларускай ці польскай мове. Прафесар Ян Сцюарт, выдатны матэматык і папулярызатар матэматычных тонкасцей, нават кажа, што «на самой справе можна выбраць любую ненавісную постаць, а пасля пакамбінаваць з нумарацыяй, а пры неабходнасці таксама з любым прозвішчам, каб усё падыходзіла». Я паспрабаваў так рабіць, і кожны раз было тое, што мела быць. Аляксандр Лукашэнка стаў нумаралагічнай Бестыяй. Гэтак жа як і Яраслаў Качынскі. Самае смешнае, што нават маё ўласнае прозвішча, калі я ўжываў строга правілы спольшчанай гематрыі, дало той жа жахлівы вынік. Вынік Звера. Толькі што без адной літаркі.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Рай на зямлі

Майска-веснавое шаленства ў поўным разгары. Прырода і зямля сваім рытуальным кругазваротам проста да нейкай шалёнасці прыводзіць і род чалавечы. Асабліва ягоную патрэбу корпацца ў зямлі з агароднінай, садавіной і кветкамі. Зараз апрача ўсіх псіхічна-аздараўляльных аспектаў гэтага занятку ў нашым жыцці мае ён і яшчэ, здаецца, адзін глыбейшы кантэкст. Гэта падсвядомыя пошукі і вяртанне да біблейскага страчанага раю ў яго прыродным выглядзе. Нездарма, калі бачым неверагодна прыгожыя агароды, сады ці любімыя краявіды нашай Бацькаўшчыны, або цудоўнасці ў іншых кутках свету, нашы вусны ў захапленні вымаўляюць адно параўнанне: проста як у раі! Наша месцазнаходжанне і жыццё ў раслінна-жывёльнай прасторы дае такое, а не іншае адчуванне вяршыні эстэтычнай уражлівасці. Затым, відаць, невыпадкова ўсплывае ў душы таксама песня гурту «Тройца» са знамянальнымі словамі «... а ў раі, раі». Паглядзеўшы таксама відэакліп да гэтай песні з яго арнаментыкай, адразу перад вачыма прасоўваюцца мне проста вобразы жыцця і расказы з падляшска-палескага космасу. А ў сэрцы і думках назаўсёды райскай застаецца карціна роднай хаты на фоне зялёных лугоў, дрэў і асыпаная кветкамі мамінага агарода.

У маёй памяці з дзяцінства засталіся таксама ўспаміны пра той райскі свет, які спаглядаў на мяне з газетак і часопісаў, прывезеных у нашу вёску баптыстамі з Дубіч-Царкоўных у пачатку сямідзясятых гадоў мінулага стагоддзя. Усё рабілася адкрыта і без боязі, відаць эпоха Эдварда Герэка пасля сярмяжна-антырэлігійнага Уладзіслава Гамулкі крыху аблягчыла дыханне маралікім, рэлігійным супольнасцям пратэстанцкага ўхілу. А можа такім чынам улады хацелі паспрыяць паслабленню каталіцка-праваслаўнага свету Беласточчыны? Не ведаю гэтага, але думаю, што нашы гісторыкі міжканфесійнае жыццё беларусаў Падляшша ў пасляваенняй Польшчы таксама раскрыюць шырэйшаму кругу чытачоў. Як на прагматычных місіянераў і людзей свядомых сваёй усходняй цывілізацыі і ў большасці беларускасці выпадала, усе тадышнія выданні былі пісаны кірыліцай на рускай мове. Не тое, што зараз, калі выданні ўсіх хрысціянскіх плыняў тут у нас, на Падляшшы, амаль у ста адсотках з'яўляюцца толькі на польскай мове. Ненайлепшы гэта знак Божы для нашай будучыні. Але тады ніхто не думаў і не ўяўляў, што канец «рускага свету» не за гарамі і не за лясамі і ў невядомай часапрасторы. Затым на лавачках перад хатамі вяліся размовы пра гнеў і ласку Божую, адкупленне грахоў і чалавечае збаўленне. Ніхто на нікога не падымаў голасу і не прагаляў з панадворка ці хаты, а ўзаемаабмен поглядамі і навінамі з іншых вёсак быў прыемна праведзеным нядзельным пасляабедзенным часам для ўсіх субяседнікаў. Ніхто нікога такімі размовамі не павярнуў у сваю, адзіную, справядлівую веру, затое пашыраў інфармацыйную гмінную прастору і ўзбагачаў архіў вусных, народнай гісторыі мясцовай супольнасці. Аднак заўсёды пасля такіх сустрэч дзеля фармальнай традыцыі заставалася баптысцкая, каляровая, рэлігійная літаратура, якую я гартаў потым па некалькі разоў дзеля цудоўных там ілюстрацый. Імпазантнае ўражанне, вядома, бралася і адтуль, што тадышнія чорна-белыя газеты і кніжкі былі дамінантай у нашых руках. І што цікавае, то менавіта экзатычныя жывёлы, дрэвы, расліны, фрукты спаглядалі на мяне з каляровых старонак. Не было там відаць бульбы, аўса, жыта. Каровы, свінні і коні не ўсміхаліся да нас.

Тады вось цікава, як выглядае, напрыклад, уяўленне раю сярод карэнных хрысціянскіх жыхароў Афрыкі? Ці сланы, жырафы, ільвы і авечкі спазнаюць дабро ў гарманічнай шчаслівасці з чалавекам пад сінім небам, сярод траў, дрэў і вадаёмаў. Для сонечнай спёкі, пустынная гарачыні і галодных людзей з упэўненасцю няма месца ў зямной, райскай фата-маргане. А можа тады ў такім выпадку тым райскім, афрыканскім уяўленнем будзе наша Белавежская пушча з усімі чатырма порамі года, зубрамі, дзікамі, дубамі, соснамі і безліччу грыбоў?

**Яўген ВАПА**

# Пад пальмамі ў Міколы Цудатворца

Сонечнае Бары. Паўтарамільённы цэнтр, пад патранатам святцеля Міколы Цудатворца.

Самы прэстыжны порт паўднёвай Італіі. Горад з градацыяй кантрастаў — як агонь і вада.

З бяседамі і гульнямі да белага рання і засяроджанымі паломнікамі ў чаканні цудаў...

Даўно ўжо мяне сюды цягнула...

Два гады таму, калі гасцявала я на поўначы Італіі, мая мара часткова прыблізілася. І адначасова на дарозе вырас камень. Ехаць туды дарогай, на аўтобусе, гэта шалёная думка. Усе адмаўлялі. На гэта трэба два дні і шмат здароўя. Найлепш адправіцца на самалёце... і праз афрыканскі Алжыр. Так танней. Сапраўды, кошт палётаў паміж італьянскімі гарадамі ў некалькі разоў перавышаў цану майго білета з Польшчы ў Італію.

Зараз усё адмянілася ў лепшы бок. З пачаткам новага года адкрылі рэйс з Вроцлава ў Бары так званыя танныя авіяліній. Калі паклапаціцца тры-чатыры месяцы раней, дык білет у два бакі можна набыць ужо за 58 еўра. Празяваць такі шанс — проста грэх!

А калі дадаць, што сам палёт трывае 1 гадзіну 45 хвілін, усё становіцца яшчэ больш даступным і звычайным. Вядома, апошняя роскаш належыць жыхарам Вроцлава. З Беластока трэба цягнуцца туды па чыгунцы ажно восем-дзевяць гадзін...

Але ж..! Палёт у горад Міколы Цудатворца патрабаваў нейкай ахвяры.

І яны, сапраўды, выраслі па дарозе, да таго ў шчырым і чужым полі.

* * *

На аэрадроме імя Караля Вайтылы прывітала нас афрыканскае надвор'е і шарэнгі пальмаў. Аўтобус, які меў давезці ў цэнтр Бары, спазняўся на сорак хвілін...

— *Włosi* на ўсё маюць час, — заявіў нехта на прыпынку. — Яны не спяшаюцца...

Сярод пасажыраў з Польшчы пераважалі студэнты і моладзь, таксама з Чэхіі, Нямеччыны і Літвы. У рэшце рэшт аўтобус № 16 прывалокся. Ён не паспеў яшчэ спыніцца, а ўжо быў перапоўнены па берагі, як бочка з селядцамі. Паколькі шафёр не схацеў прадаваць білетаў, амаль усе пасажыры, наўючаныя багажамі, у тым ліку ніжэйпадпісаная, дабіраліся «зайцам». Але пра гэта трэба маўчаць! У Італіі не надта клапоцяцца пра квіткі — ездзіць на публічным транспарце «зайцам» запісана там у іх стыль жыцця. Ды і кантралёры з'яўляюцца тут ад вялікага свята, а штраф у тры разы меншы чым у бедным Беластоку. Часам хапае апраўданне, каларытны падман, каб той кантралёр махнуў рукою. Гэта ў пэўным сэнсе кампенсуе славутыя спазненні і язду па-за афіцыйнай распіскай...

Сістэма спрацоўвае аднак на прынцыпах змовы маўчання: адны другіх разумеюць і ўтрымоўваюць спакой, пашану...

Пасажыры з Польшчы аднак хутка выбілі шафёра з добрага спакою. І ён гэтага не дараваў! Спыніўся сярод шчырага поля, адкрыў дзверы і загадаў... Пайшлі вон!

Апынуцца на прадмесці чужога горада, у чужой краіне, сярод руін і лабадзення — прыгода родам як з фільма жаху. Асабліва для тых, хто з дрыжачым сэрцам дабіраўся ўпершыню ў міфічны горад мараў і цудаў. На шчасце дзядзька хутка ахалонуў і рушыў назначаным маршрутам...

А што так моцна знервавала спакойнага італьянца? Вось, нашы пасажыры, што прыляцелі на адным самалёце з Вроцлава, на ўсё горла абвяшчалі, што ў іх няма білетаў, здзекаваліся з італьянскай мовы, вымаўляючы на ўсякія спосабы слова *«кэ коза»* і падстаўлялі апошніх у салоне:

— Ніхто ў гэтым аўтобусе не мае білетаў! — гарлапанілі яны па-польску. — Аштрафуйце нас, калі ласка...

Зварот *«кэ коза»* па нашаму — што гэта такое?

* * *

Бары — адзін з самых чароўных і натхняльных гарадоў Італіі. Але калі едзеш туды абярэжжамі, перапоўненым аўтобусам з дзікай кампаніяй, у галаву лезуць іншыя думкі. Нават такія, якія ад зайздрасці выказаў міністр культуры Турцыі. Нядаўна ён пажадаў вярнуць святыні Міколы Цудатворца ў музей у турэцкім Дэмрэ — так сёння завецца Міра — горад святога, якія апынуўся ў межах Турцыі. Як вядома, святы Мікалай нарадзіўся на зломе III і IV стагоддзяў, у старажытнай правінцыі Лікія ў Рымскай імперыі. Напрыканцы XI стагоддзя з той жа Міры, якая апынулася пад панаваннем мусульман, астанкі святога перавезлі караблём маракі. Гэтую падзею «аздабляюць» турэцкія легенды са скандальным прысмакам. Паводле іх мошчы Мікалая Цудатворца былі захоплены тайком і перавезены піратамі ў атмасферы скандалу. Па гэтай прычыне турэцкі міністр культуры абазваў сучаснае Бары горадам карсараў! Старая крыўда ўсё тут была свежай і толькі падбівала важнасць святога.

Старажытны порт, калі апынуліся ў ім мошчы Міколы Цудатворца, расцвіў на ўсю правінцыю. Па сённяшні дзень у Бары цягнуць паломнікі з усяго свету і ў першую чаргу з Расіі. Гэты паломніцкі шлях абгрунтаваны стагоддзямі. З Расіі дасылалі ў горад любімага святога найбольш шчодрыя дары. Ёсць таксама беларускі след. У той жа кафедры св. Мікалая спачываюць астанкі каралевы Боны, якая закончыла тут свой жыццёвы шлях.

А тут такая знявага — пірацкі горад! Сапраўды, калі судзіць па перыферыі, у атмасферы адчуваліся нейкі камуфляж і знакі, якія ставілі сабе за мэту збіць з панталыку, адвярнуць увагу, знеахвоціць.

Вось тое няшчаснае прадмесце, праз якое мы прабіваліся каля сарака хвілін, заяўляла, што чалавек едзе не ў рай, да святога, а проста ў пекла. Абапал дарогі стаялі апусцелыя фабрыкі і сядзібы, якія напаміналі месцы пасля Чарнобыля. Вампірычныя, мёртвыя сілуэты зарастала дзікае лабадзенне і сохлая трава. Частка будынкаў завалілася ад старасці. Нідзе не было людзей, звяроў... Хоць не — часам паміж пакінутымі будынкамі выраслі кварталы хмарачосаў з кватэрамі-апартаментамі. З панталыку збівалі пальмы і фігавыя дрэвы, якія вызіралі з запушчаных закамаркаў, як выпадковае пустазелле. Словам, вампірычна-мадэрная мазаіка, ператкання аліўнымі садамі і квітнеючымі алеандрамі. Хацелася гукнуць.. — *«кэ коза»*.

* * *

Праўду кажуць разумныя людзі, што каб выспеў цуд, спачатку патрэбны жах і кашмар. Інакш яно не дзейнічае. У цэнтры горада адчувалася іншае вымярэнне. Прыгожасць горада займала мову. Супакоіліся і тыя маладзёны, якія даказвалі і брахалі ў дарозе. Збянтэжаныя прыгажосцю месца, узіраліся ў сіняе мора і ў вір жыцця, які панаваў на вуліцах і праспектах пад пальмамі.

Хоць я не чакала цудаў і сюрпрызаў, на прывітанне чакаў падарунак ад духовага патрона горада. Вось, выпадкова, натрапіла я на галоўнае свята горада і начную фіесту ў гонар Міколы Цудатворца. Кожны год у Бары 9 мая, у гадавіну перавязення мошчаў святога тымі ж карсарамі, па горадзе ходзяць працэсіі з фігурай святога і ладзяць шмат каларытных інсцэніэацый і гістарычных рэканструкцый на моры. У гэты час італьянцы не спяць і не працуюць. Цэлымі сем'ямі, разам з малымі дзеткамі, прысутнічаюць на фіесце або выседжваюць на вуліцах у сяброўскіх бяседах да раніцы, п'юць віно і спяваюць песні...

(працяг будзе)

Фота і тэкст
**Ганны КАНДРАЦЮК**


Від на Адрыятыку


Працэсія ў цэнтры горад з фігурай Міколы Цудатворцы.


Праваслаўная капліца ў падзямеллі ля гроба са святынямі Міколы Цудатворцы

## Запушчаны роў у Плянце

Вёска Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета сярэдняя па велічыні. Дзве яе часткі раздзяляе лес. У сяле пражываюць 154 чалавекі.

У частцы вёскі, распаложанай паабапал чыгункі, цягнуцца прызабытыя равы. Яны зараслі травой і высокімі кустамі. У іх поўна апаўшага мінулагодняй восенню лісця. У Плянце стаіць вада ў равах ды зямля размоклая. У каго пад дамамі склепы (піўніцы) для захоўвання бульбы, морквы і буракоў, у іх прасочваецца і стаіць вада. Таму жыхары дамоў ля якіх ёсць роў, патрабуюць, каб яго давялі да парадку. Неабходна ссячы кусты і роў ачысціць ад мулу. Гэтую справу накіроўваем перш-наперш да солтыса Плянты і гміннай радная.

І яшчэ адно. Зараз вада ў рове побач дамоў смярдзіць. Некаторыя жыхары спусцілі, гэта чуць носам, нечыстоты са сваіх прыдамашніх септыкаў і яны цяпер мацней паху майскай чаромхі, якая там-сям расце над ровам. Трэба дадаць, што ў Плянце ўжо шмат гадоў ёсць водаправодная сетка, але няма санітарнай каналізацыі. Быў на яе ўжо гатовы тэхнічны план, была дамова з чыгуначнымі ўладамі на пракладку труб пад насыпам пад рэйкамі і былі грошы, але некаторыя плянтаўскія жыхары не дазволілі пракласці каналізацыйныя трубы на сваіх зямельных участках. Вось табе і на. З-за гэтай каніцелі санканалізацыю маюць жыхары паднараўчанскай вёскі Міклашэва. А плянтаўцы чакайце. **(яц)**

## З аптымізмам спаглядаю на заўтрашні дзень...

Мінулы год быў ураджайны ў маім садку. Урадзілі яблыкі, слівы, вішні, чарэшні і чорная парэчка. Асаблівасцю былі грушы «кляпса» ды «канферэнцыя». Паколькі пражываю ў хаце адзінока і са здароўем справа ненайлепш маецца (два разы пабываў на рэабілітацыйным аддзяленні ў Гайнаўцы і Белавежы), не было каму наглядаць за агародчыкам. Шмат фруктаў пайшло ў затрату. Некалькі мяшкоў яблык прадаў прыватнаму прадпрымальніку з Сямятыч у «Вітаміну», са сліў і груш зрабіў запас на зіму ў відзе кампотаў ды дачцэ і ўнукам яшчэ хапіла.

Сёлета вясною зноў прыйшлося прайсці шпіталізацыю і аперацыю ступні. І зноў пры канцы траўня прыйдзецца падаца на рэабілітацыю. А з таго, што прыкмячаю, будзе ўраджай на вішні, чарэшні ды грушы. Яблык і сліў амаль зусім не будзе. Сёлета ўпершыню не пасадзіў я агародніны ды не добраўпарадкаваў цяпліцу. Намагаюся папраівіць здароўе. І лічу на поспех. Усё будзе залежыць ад гайнаўскіх шпітальных спецыялістаў, ардынатараў артапедычнага, унутраных хвароб і рэабілітацыйнага аддзяленняў. З вялікай увагай паставіліся да маіх прашэнняў дырэктар Падляшскага ваяводскага аддзялення НФЗ у Беластоку і дырэктар Гайнаўскага СП ЗОЗ спадар Рыгор Тамашук. Дзякуючы іхняй падтрымцы і прафесійнасці д-ра медыцынскіх навук Яна Кірылюка я не стаў адчуваць болю хворай ступні і аптымістычна стаўлюся да далейшай шпіталізацыі.

Пасля амаль чатырохгадовага бадзяння па лекарскіх кабінетах і амбулаторнага лячэння я магу свабодна рухацца пры дапамозе двух палак, ды спадзяюся іх незадоўга адставіць і ўключыцца ў шпаркае рэчышча публіцыстычнай дзейнасці. Дай Бог, каб мае мары здзейсніліся.

**Уладзімір СІДАРУК**

# Вярнуць прададзеную бацькаўшчыну

(працяг з Нівы № 19)



**Нелаяльнасць у адносінах да сваіх?**

Група жыхароў вёскі Лука — былых уласнікаў нерухомасцей, экспрапрыяваных у 70-х гадах XX стагоддзя на патрэбы пабудовы вадасховішча Семяноўка і канала Нарва — Супрасль, пасля спроб вырашэння справы вяртання зямель нявыкарыстаных на гэтае віднае мерапрыемства Польскай Народнай Рэспублікі самастойна, вядома, пры дапамозе юрыстаў, пасля неахвоты ўлад Нараўчанскай гміны да вырашэння справы згодна з канстытуцыяй і польскім законам, афіцыйна звярнулася да заступніка правоў грамадзян Польскай Рэчы Паспалітай, каб растлумачыў факты і пасадзейнічаў у вырашэнні складанай ды несправядлівай сітуацыі, нязгоднай з польскім правасуддзем, пры зламысным абыходжанні закону праз чыноўнікаў, на чале са шматгадовым войтам, па адукацыі юрыстам, гэтай гміны, па дасягненнях, якая лічыцца 14-й ва ўсёй краіне. Тыя дасягненні гэта таксама дасканалае дбанне аб інтарэсы яе жыхароў — матэрыяльныя, гаспадарчыя і культурныя. Ацэнка гміны не беспадстаўная. Нараўчанская гміна зямлю атрымала з распараджэння дзяржавы, ад Управы меліярацыі і водных установак у Беластоку, у дзевяностыя гады XX ст. Участкі перададзены былі ў рамках камуналізацыі дзяржаўных грунтоў.

Па прычыне таго, што інвестыцыя была рэалізавана толькі часткова, актуалізаваліся правы былых уласнікаў да вяртання нерухомасцей, нявыкарыстаных на г.зв. публічныя мэты. Паводле дакладных інфармацый, перададзеных амбудсмену, актуальна перад гайнаўскім старостам адбываюцца ў гэтай справе адміністрацыйныя справы. Гэтая акалічнасць была неаднойчы заяўлена ўладам гміны. Аднак, Нараўчанская гміна надалей прызначала тыя нерухомасці для продажу, найчасцей на аўкцыёнах, некаторыя з іх ужо перададзены ў рукі «трэціх асоб», што, паводле амбудсмена, з'яўляецца дзеяннем, парушаючым правілы закону. Амбудсмен прыгадвае, што згодна з арт. 136 уст. 1 і 2 закону Аб гаспадарцы нерухомасцямі ад 1997 г. (са зменамі з 2016 г.) «экспрапрыяваная нерухомасць не можа быць выкарыстана на іншую мэту чым вызначаная ў рашэнні аб экспрапрыяцыі...), хіба што папярэдні ўласнік або яго спадчыннік не пададуць патрабавання звароту гэтай нерухомасці». У выпадку рашэння аб выкарыстанні экспрапрыяванай нерухомасці або яе часткі на мэту іншую чым у рашэнні аб экспрапрыяцыі, адпаведны орган паведамляе папярэдняга ўласніка або яго спадчынніка аб гэтым намеры, адначасова інфармуючы аб магчымасці вяртання экспрапрыяванай нерухомасці (раней гэтае пытанне таксама рэгулявалі законы ад 29 красавіка 1985 г. аб гаспадарцы грунтамі і экспрапрыяцыі нерухомасцей).

Трэба тут таксама адзначыць, што права на вяртанне нерухомасці экспрапрыяванай на публічныя мэты, якая стала лішняй для рэалізацыі гэтай мэты, не з'яўляецца правам выключна прызнаным заканадаўцам — яно гарантуецца непасрэдна ў Канстытуцыі, як і інтэрпрэтуецца. Права на вяртанне нерухомасці экспрапрыяванай на публічныя мэты проста выходзіць з канстытуцыйных гарантый ушанавання прыватнай уласнасці, якое публічная ўлада павінна паважаць. Таму Нараўчанская гміна, як праўны спадчыннік экспрапрыюючага суб'екта, намервaецца збыць гэтыя нерухомасці для трэціх асоб, а гэтым самым — да адабрання былым уласнікам правоў на вяртанне гэтых нерухомасцей у натуры. Такога роду дзеянні гэта парушэнне грамадзянскіх і грамадскіх правоў, што ў выніку дае кампенсацыйную адказнасць публічнага суб'екта! Такая пазіцыя ўгрунтаваная ў правасуддзі Галоўнага суда.

Але, згодна з рашэннем Галоўнага суда ад 15 верасня 2015 г. продаж з парушэннем правоў былых уласнікаў не кажа *per spe* пра няважнасць такога юрыдычнага дзеяння, а толькі абгрунтоўвае адказнасць дэліктавую (фінансавую) за парушэнне права, ды ў некаторых навейшых рашэннях агульныя суды палічылі такія дамовы **свядомым абыходам закону дзеля пакрыўджання папярэдніх, экспрапрыяваных уласнікаў, парушаючы прынцыпы грамадскага сужыцця і з-за гэтага няважныя.** Суд у гэтых справах палічыў, што пазваная гміна ў несумленны спосаб намервалася спецыяльна пакрыўдзіць бакі, а яе нелаяльнасць у адносінах да бакоў трэба назваць паражаючай! Суд падкрэсліў, што «гміна выконвае публічныя заданні, з'яўляецца суб'ектам публічнага права і як такая асабліва павінна — праз дзеянні сваіх органаў — захоўваць прынцыпы сумленнасці і лаяльнасці». А тыя ўмовы ў гэтых справах былі «поўнасцю наўмысна занядбаныя». Сцвярджэнне абыходу закону пры падпісанні дамовы продажу таксама ў выніку дае абсалютную няважнасць такіх дзеянняў, але на іншай юрыдычнай аснове (арт. 58 § 2 цывільнага кодэксу, а не яго арт. 58 § 1). Вяртанне ўласнасці такіх нерухомасцей нанова актуалізуе патрабаванне вяртання па прычыне лішнясці тых маёмасцей для мэт экспрапрыяцыі.

У іншым рашэнні суда напісана, што «маёмасны перанос паміж гмінай і гміннай юрыдычнай асобай гэта не выхад нерухомасці па-за ўладу гміны і не азначае гэта ўвядзення нерухомасці на паўторны рынак нерухомасцямі». Таму тая трансакцыя мае характар іншы ад дамоў па III CZP 107/14 і таксама робіцца няважнай — па прычыне неабходнасці абароны правоў папярэдніх уласнікаў і права на магчымасць вяртання экспрапрыяваных маёмасцей.

Абаронца грамадзянскіх правоў патрабаваў ад войта Нараўчанскай гміны, юрыста, каб даў яму тлумачэнні па гэтым пытанні, асабліва аб стане спраў у судах, якія праводзяцца па гэтым пытанні. Калі б абвінавачанне ў парушэнні правоў асоб, якія скардзяцца на рашэнні гміны, пацвердзяцца, гміна павінна пералічыць свае дзеянні, якія кампенсавалі б слушныя патрабаванні ды пазбеглі б падобных да гэтага дзеянняў у будучыні...

Асобы, якія скардзіліся да амбудсмена, звярнуліся да Аўкцыённай камісіі ў Гміннай управе ў Нараўцы, каб адмяніла продаж участка № 922/1 і аб'яўленне асобам, якія будуць прымаць удзел у аўкцыёне, што аўкцыён адменены і па якой прычыне (на аб'явах паведамлена, што да гэтага ўчастка няма ніякіх прэтэнзій). Гэты ўчастак прапануецца на іншыя мэты, чым было адзначана ў акце перадачы яго гміне (быў ён прызначаны для земляробства). У дадатак у Павятовым старостве ідзе справа GK.683.1.2015. Таксама такая справа будзе цяжарам для «трэціх асоб», якія прымаюць удзел у аўкцыёне. Гэты ліст мае быць адчытаны аўкцыённай камісіяй асобам, якія будуць прымаць удзел у аўкцыёне. Абгрунтаванне налічвае тры старонкі, са спасылкамі на юрыдычныя акты і прыклады разбору пытання агульнымі судамі і Галоўным судом. Здаецца, юрыст, спраўна кіруючы гмінай пару тэрмінаў, павінен падысці сумленна і з нейкай бояззю перад польскім правасуддзем, паколькі адказвае за фінансы ўсёй грамады. Калі б раптам не ведаў, можа аказацца, што грошы атрыманыя з продажу нерухомасцей у параўнанні з коштамі магчымых кампенсацый за абманнае распараджэнне маёмасцю могуць быць значна большымі. Гміна атрымае вялікую фінансавую страту, бо самым сумным вынікам занядбання будзе неабходнасць заплаты кампенсацый за шкоду з бюджэту гміны, значыць, з супольных грошай жыхароў...

(Працяг будзе)

**Міра ЛУКША**



**Жыў любоўю да сваёй зямлі, да Сакольшчыны. Як уласнік музея, як вядомы ва ўсім свеце вытворца яды, ці радны гміны заўсёды стараўся паказваць асаблівасці культуры беларусаў Сакольшчыны. 6 траўня не стала Яна Анцыпы — стваральніка музея Сакольшчыны ды прапагандыста мужыцкай сакольскай культуры. Менавіта ён ніколі не саромеўся сваёй мовы, ды традыцыі. Наадварот, як нямногія, на гэтым пабудаваў сваю непаўторную марку.**

# Сакольшчына развіталася з Янкам Анцыпам

Інспіравалі яго простыя рэчы: «простая мова», даўнейшыя песні, мужыцкая кухня... З дзяцінства найбольш запаматаліся яму пахі менавіта тых простых страў, якія на печы рыхтавала яму маці. Тыя ўспаміны сталі штуршком для пошукаў, ужо ў сталым узросце, смакаў даўняй мужыцкай кухні жыхароў Сакольшчыны. Янка, бо так называлі яго сябры, пры дапамозе старэйшых жыхарак Яноўшчыны вярнуў дзясяткі страў, якія супольна рыхтавалі ў Рэгіянальнай ізбе. Менавіта гэтае месца, дзякуючы дзейнасці Янкі Анцыпы, стала цэнтрам культурнага жыцця Яноўшчыны. Людзі самі пачалі прыносіць даўнейшыя прылады і вопратку, што дало пачатак невялічкаму музею, які пачаў працаваць у Рэгіянальнай ізбе. Янка Анцыпа вяртаў таксама даўнія абрады. Яму, як нікому іншаму на гэтай тэрыторыі, хацелася і ўдавалася сабраць групу моладзі, якая ў колішняй мужыцкай вопратцы паказала абрад Купалля і сакольскага вяселля.

Павелькі — вёска аддалена 5 кіламетраў ад Саколькі — былі чарговым месцам, які часта наведвалі турысты. Смела можна сказаць, што дом-музей у Павельках, які стварыў Янка Анцыпа, з'яўляецца адным такім месцам на Сакольшчыне, дзе можна было даведацца пра жыццё і культуру тутэйшых жыхароў. Апрача музейнай калекцыі заўсёды можна было разлічваць на пачастунак ядой, падрыхтаванай паводле даўніх рэцэптаў. У Павельках побач з музеем працуе вяндлярня славутых кумпякоў. Менавіта за сакольскі кумпяк Анцыпа атрымаў найбольш узнагарод. Захапляліся ім у Японіі, Нямеччыне, а нават у Італіі, хаця італьянцы маюць сваю падобную шынку. Анцыпа лічыў, што кумпяк — гэта мужыцкая яда, а яго непаўторны рэцэпт характэрны выключна для тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага.

Повадам, для якога наведвала яго шмат людзей, журналістаў і сяброў, была таксама яго харызма і адкрытасць на другога чалавека. Для гасцей Янка заўсёды знаходзіў час, нават калі пра візіт інфармавалі яго на гадзіну раней. Заўсёды з гэтым самым захапленнем расказваў пра свае новыя знаходкі, якімі ўзбагачаў калекцыю музея. Памятаў дакладна сям'ю, якой раней служыў канкрэтны прадмет. У час майго апошняга візіту ў Павелькі Янка дабыў са старой шафы амаль стагадовае ільняное палатно. З яго хацеў пашыць касцюмы па ўзору даўнейшай сялянскай моды. І ведаю, што гэта ўдалося яму зрабіць. Аднак напэўна меў у галаве яшчэ сотні ідэй, якіх не паспеў рэалізаваць.

Янка Анцыпа не толькі вяртаў даўнюю Сакольшчыну з яе смакамі і абрадамі, але таксама цэлы час удзельнічаў у абрадах сваёй вёскі. Менавіта ў Павельках пражыў цэлае сваё жыццё. Разам з аднавяскоўцамі свяціў зерне, зёлкі, фрукты. А як сам Янка паўтараў, тыя традыцыі дапамагалі памятаць аб гэтым, што не ўсё залежыць ад чалавека, і што чалавек павінен супрацоўнічаць са сваім Творцам. Вечная Яму памяць!

❖ Уршуля ШУБЗДА

# Заблудаўская дэмаграфія

У Заблудаўскай гміне пражываюць 6693 чалавекі ў 58 населеных пунктах. Найбольш у горадзе Заблудаве — 2408 асоб. Гміна займае плошчу ў 340 квадратных кіламетраў. Шчыльнасць насялення — 27 чалавек на квадратны кіламетр.

Найбольшыя вёскі ў гміне гэта Дабжынёўка — 693 жыхары, Кур'яны — 626, Рафалоўка — 508, Рыбалы і СКР Рыбалы — 418, Галіцкія — 251, Звяркі — 250, Крыніцкія — 236, Протасы — 227, Скрыбічы — 206, Заблудаў-Калёнія — 205, Лубнікі — 191, Фальваркі-Малыя — 167, Загрушаны — 162, Паўлы — 160, Камёнка — 151, Фальваркі-Тыльвіцкія — 149, Беласточак — 133, Рэпнікі — 131, Фальваркі-Вялікія — 128, Кудрычы — 123, Кухароўка — 102, Навасады — 94, Пасынкі — 91, Козлікі — 86, Плоскія і Кавалёўцы — па 79, Целушкі — 77, Жукі — 74, Баброва — 69 і Астраўкі — 68.

Да сярэдніх вёсак належаць Гнецюкі — тут пражывае 65 чалавек, Давідавічы — 62, Сольнікі — 56, Малынка — 53, Заязерцы — 49, Ахрымовічы і Зацішша — па 43, Сеські — 42, Канюкі — 40, Альшанка і Алексічы — па 38, Ляшкі — 37. Татараўцы, Жыўкова і Каўпакі — па 30.

Самыя малыя пасяленні гэта Міневічы — 14 жыхароў, Слямянка — 13, Краснае — 12, Лук'яны — 10, Тэадорава — 5, Рудніца — 4 ды Багданец, Баравікі і Касцюкоўка — у кожным з іх усяго па 1 жыхары.

Лік жыхароў Заблудаўскай гміны пабольшаў ад мінулагодняга. Пабольшала жыхароў у Галіцкіх, Загрушанах, Звярках, Лубніках, Крыніцкіх, Фальварках-Вяліkіх, Козліках, Кавалёўцах, Кудрычах , Кур'янах і ў Кухароўцы, а паменшала ў Дабжыневе, Заблудаве-Калёніі, Фальварках-Тыльвіцкіх, Канюках, Малынцы, Навасадах, Паўлах, Протасах, Рафалоўцы, Сеськах і Скрыбічах,

У гміне кавалераў значна больш чымсьці іх равесніц-дзяўчат, таксама значна больш удоў чымсьці ўдаўцоў. Жанчыны жывуць у сярэднім на чатыры гады даўжэй за мужчын. Да ліку найстарэйшых жыхароў у гміне належыць Браніслава Васілеўская (ёй 105 гадоў) з Заблудава.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

1 ☞ працяг

якому журы прысвоіла другое месца. Цікава ў гэтай катэгорыі запрэзентаваліся таксама хор «Trimifunt» з Кіева (атрымаў вылучэнне), хор Сабора св. Аляксандра Неўскага ў Лодзі і хор Прыхода св. прарока Ілы ў Беластоку. Маліто́ўна запрэзентаваліся нашы вясковыя парафіяльныя хары: маладзёжны хор Прыхода св. Панцеляймона ў Засцянках (першае месца), хор Прыхода св. Варвары ў Кузаве (другое месца) і хор Прыхода св. Мікалая ў Нараўцы (трэцяе месца).

У катэгорыі іншых хароў на высокім мастацкім узроўні і асабліва займальна запрэзентаваўся хор Акадэмічнага ансамбля песні і танца Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь з Мінска, які заняў першае месца. Дырыжор мінскага хору Мікола Кашура паінфармаваў, што разам з харыстамі стараліся падрыхтаваць на фестываль розныя царкоўныя творы, а сярод іх адзін з Супрасльскага ірмалагіёна. Многім гайнаўнам запамятаўся таксама займальны канцэрт у гарадскім амфітэатры хору Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь, які па-майстэрску выканаў ваенныя і народныя эстрадныя песні. Хор Варшаўскай архікафедры святога Іаана Хрысціцеля атрымаў другое месца ў гэтай катэгорыі.



■ Хор «Фэст» з Мінска (Беларусь) заняў другое месца

Цікавым у катэгорыі іншых хароў атрымаўся выступ мітрапаліцкага хору Сабора святога Іаана Багаслова з Нікозіі, які займальна запрэзентаваў не толькі царкоўны спеў, але таксама кіпрыёцкую культуру краіны з поўдня Еўропы (журы прызначыла гэтаму хору спецыяльную ўзнагароду). У катэгорыі вакальных калектываў свае мастацкія ўмеласці і займальнасць царкоўнага спеву паказалі хор «Duschechka» са сталіцы Латвіі Рыгі (першае месца) і хор «Аксіёс» з Сынковіч у Беларусі, у якім спяваюць студэнты і выпускнікі музычных устаноў (другое месца). Беларускія харысты сказалі, што спяваюць на багаслужбах у Свята-Міхайлаўскай царкве ў Сынковічах і выступаюць падчас мерапрыемстваў, дзе прэзентуецца царкоўная музыка. Трэцяе месца заняў хор «Паліхраніён» з Адэсы (Украіна), а вылучэнне атрымаў беластоцкі калектыў «Katharsis».

Пераможцы фестывалю выступілі з царкоўнай музыкай у час гала-канцэртаў, якія 12 мая прайшлі ў Свята-Троіцкім саборы ў Гайнаўцы і царкве Агія Сафія ў Беластоку. Падчас гайнаўскага гала-канцэрта, на які прыбылі архіепіскап вроцлаўскі і шчэцінскі Георгій, епіскап гайнаўскі Павел і епіскап сямятыцкі Варсанофій, дырэктар фестывалю айцец Міхаіл Негярэвіч звярнуў увагу на разнароднасць царкоўнай музыкі выдатна прэзэнтаванай у саборы ўдзельнікамі фестывалю з васьмі краін Еўропы і Азіі. Высокі мастацкі ўзровень спеву царкоўных твораў заўважыла журы фестывалю, аб чым заявіў яго старшыня прафесар Уладзімір Валасюк. Сказаў пра гэта таксама вядучы праграмы фестывалю протаіерэй Павел Стэрлінгаў з гайнаўскага сабора. Падчас сёлетняга фестывалю, які ладзяць у галоўным Грамадскі арганізацыйны камітэт, Аб'яднанне «Любіцелі царкоўнай музыкі» і Гайнаўскі дом культуры, адбылося многа дадатковых канцэртаў у Гайнаўцы і ў звыш дзесяці мясцовасцях Падляшскага ваяводства, а таксама ў Элку і Ласіцах. У час канцэртаў прэзентавалася перш за ўсё царкоўная музыка, але таксама гучалі народныя і эстрадныя песні. Сярод суправаджаючых фестываль мерапрыемстваў асабліва вылучаўся вялікі пленэрны канцэрт фальклорнай і эстраднай музыкі на розных мовах «Фальклорная бяседа», які традыцыйна адбыўся ў Асяродку лясной адукацыі «Ягелонскае» ў Белавежскай пушчы. Фестывалю спадарожнічалі выставы мастацкіх прац, інспіраваных царкоўнай музыкай, і фотавыстава «Айцец Антоній Дзевятоўскі», прэзентаваныя ў ніжняй царкве гайнаўскага сабора, выстава «Гісторыя следчага арышту ў Гайнаўцы» ў прыхадской зале сабора, а таксама экспазіцыя ікон у Гайнаўскім доме культуры.

❖ Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Тэатр і лакальныя краскі



— А хто ў Трасцянцы солтыс?

— Я, — адказаў з ходу Міхась Тапалянскі.

У адказ грымнуў выбух вясёлага смеху. Сябры дацанілі пачуццё гумару Міхася.

Хлапец не дачуў пытання і замест пра вёску сказаў пра спектакль і сваю ролю. Мова пра новую пастаноўку нараўскіх вучняў, дзе галоўная роля прыпадае вясковаму солтысу. Грамада супольна вырашае пра справы вёскі, аднак апошняе слова належыць галаве, то-бок, солтысу. Ён мудры і справядлівы — ведае як найлепш вырашыць праблемы грамады. А Міхась проста створаны для таго, каб іграць такія патрыярхальныя ролі. Ад наймалодшых гадоў ён выступаў у пастаноўках у ролі Бацькі. А што будзе далей? Ці зайграе ён ролю Войта, Прэзідэнта, Караля?

У традыцыі вучняў з Нарвы сцэнкі з сапраўднага жыцця. І гэта не толькі фальклорны каларыт. Кожны іх спектакль ставіць сабе за мэту захаваць абрады, з'явы, якія паціху, непрыкметна знікаюць з нашага жыцця. Таксама роля солтыса ў нашых вёсках мела не толькі адміністрацыйнае значэнне. Да яго ішлі па параду або прасілі дапамогі. Добры солтыс ніколі не мог адвярнуцца ад бяды ці праблем сваіх аднавяскоўцаў. Гэтыя грамадскія каштоўнасці вырасталі з традыцыі, так што грэх пра іх забыць.

У Нарве пра гэта добра ведаюць.

Нараўскія вучні пад кірункам настаўніцы Ніны Абрамюк паказваюць на сцэне нашы абрады і лакальныя краскі. Ды робяць гэта з адчуваннем і гумарам. Тут таксама трапляюцца акцёры, якімі захапляюцца і пра якіх памятаюць. Да нядаўна такой зоркай быў Крыстыян Паскробка, сёння вучань гайнаўскага белліцэя. А зараз на яго месца з'явіліся не менш таленавітыя хлопцы. Апрача Міхася трэба згадаць братоў Кутузавых, якія праявілі сябе ўжо як дэкламатары і ўдзельнікі «Гавэнды». Разам з цудоўнымі сяброўкамі яны ўмеюць не толькі паставіць спектакль, але і вылавіць пэўныя смешныя рэчы і пажартаваць з сябе...

А яшчэ трэба сказаць пра нашых сяброў такое — іх вясковыя карцінкі не перабраныя, яны спісаны з сапраўднага жыцця. Таксама як частка рэквізітаў і касцюмаў. Моладзь прынесла іх з родных хат або пазычыла ў бабуль і дзядуляў.

**(Зорка)**

**Фота Ганны Кандрацюк**

*Лукаш Анхім, ПШ у Міхалове*

## Шары-балёны

Нядаўна па небе плылі балёны.
Два, чатыры, восем чырвоных.
Пяць жоўтых і аранжавы.
І шэсць белых. Шары!
Што ні гавары!
Ляцелі ўгару, ляцелі.
І на небаскробе паселі.
Трах! Бах! — лопнулі шары ўгары.
Толькі аранжавы далей паляцеў
і на хмарку сеў.

*(з беларускай міфалогіі)*

# Пярун

Пярун — бог нябеснага агню. Пярун, паводле ўяўленняў беларусаў, велічны, статны, высокага росту з чорнымі валасамі і доўгай, залатой барадой. Седзячы на вогненнай калясніцы, ён раз'язджае па небе, узброены лукам і стрэламі. Яго грымотны лук — каменны молат. Яго стрэлы — маланкі. Адным ударам свайго каменнага молата Пярун разбівае хмары. Чэрці бягуць на зямлю, але і тут іх даганяе маланка. Чорт любіць хавацца пад дрэвам, таму небяспечна станавіцца пад дрэвы, каб схавацца ад дажджу, бо замест нячысціка Пярун можа памыліцца і забіць чалавека. Пры громе і маланцы людзі запальваюць грамнічную свечку і жагнаюцца. На Падляшшы старажылы раілі яшчэ есці сухі хлеб з цвіллю — гэта каб не баяцца навальніцы з громам і маланкамі.

**(зор)**

*Аляксандра Аляксеюк, Тапаляны, ПШ у Міхалове.*

## Агарод бабулі

У бабулі на градзе,
Многа агародніны расце.
Морква, агуркі,
Капуста, буракі,
Усё здаровае для мяне!
Я ўсё з бабуляй сарву
І добрую страву звару.

Байкі сярэднявечнай Арменіі

# Воўк і бядуля

У аднаго беднага чалавека прапаў асёл. Ён усхваляваны брадзіў па лесе і шукаў жывёлы. Убачыў яго воўк і пытае:

— Каго шукаем?

— Дзесьці прапаў мой асёл, Ніяк не магу яго знайсці! Можа ты бачыў?

— Я знайшоў яго, — кажа воўк.

— Дык прывядзі да мяне асла, а я шчодра ўзнагароджу за знаходку.

А воўк на гэта:

— Твой асёл застраг па шыю ў балоце. Я тры дні шчыраваў, пакуль выцягнуў яго з гразі. І сам узяў для сябе ўзнагароду!

— Як, гэта... узяў узнагароду?

— Нармальна! — выскаліў зубы ваўчышча. — Я з'еў яго... Я ведаю, што ў цябе няма чым узнагародзіць мяне за знаходку. Дык каб не заставацца ў крыўдзе, сам сябе ўзнагародзіў!

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Мікола Маляўка

## Гняздзечка

Я знайшоў за рэчкай
Куст парэчак,
А пад ім гняздзечка —
Пяць яечак.
Днём, як вараняты, я
Там, пры птушках.
Сню яечкі тыя —
У вяснушках.
Не сказаў нікому,
Дзе гняздзечка,
Сам не ўзяў дадому
Ні яечка.
Як разгорнуць крылы
Птушаняты,
Вам сакрэт адкрыю,
Дашкаляты:
Пакажу за рэчкай
Куст парэчак,
А пад ім гняздзечка —
Без яечак.



## УВАГА КОНКУРС! № 20-18

**Маці дзетак**
**Паслала да кветак,**
**Бо ў доміку мала**
**Салодкага стала.**
**П....**

**Уладзімір Мацвеенка**

**Загадкі з роднай хаткі**

**Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 27 мая 2018 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.**

**Адказ на загадку № 16-2018: вясна.**
**Узнагароды, наклейкі, выйгралі Антон Раманюк, Магдалена Гарустовіч з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку, Мая Тапалянская, Тамаш Ваўранюк з Нарвы, Ганя Дзянянчук, Аляксандра Харытановіч, Магда Калілоўская з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 20-18

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 16-2018:**

Аня, бор, князь, склон, ах, трус, ян, трон, рука, каб, язык, краса. Абцас, ар, тры, струк, крок, клунак, нос, Ян, Ака, неба.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі **Алівія Саберай, Зузя Скрабска** з бельскай «тройкі», **Зузя Бар'ір, Ян Лысынкевіч** з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія з Беластока, **Габрыела Красько** з Арэшкава, **Аляксандра Аніськевіч** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Мартына Лукша** з Нараўкі, **Мацей Кендысь** з ПШ № 4 у Гайнаўцы, **Марта Петручук** з Нарвы, **Матвей Зенцяк** з Міхалова. Віншуем!

Punkt
Konie
Okno
Kwiatek
Buty
Kasztan
Stan w USA
Miednica
Czytelnik
Stolica
Smak
Zdanie
Tur
Sto
La
Szach i ...
Księgarnia



Супольны здымак з бацюшкам Андрэем Жукавіцкім тых вяскоўцаў, якія асвячаюць пасху побач высокіх крыжоў у пачатку вёскі; іншыя асвячаюць у вясковай глыбінцы

# Міклашы ў мінулым і цяпер

Можна сказаць, што Орля спалучана з дзвюма вёскамі. З заходу на прадаўжэнні вуліцы Кашалёўскай перад мостам на Арлянцы канчаецца Орля, а за мостам ужо будынкі Кашалёў — найбольшай пасля Орлі вёскі ў гміне. Памятаю, што ў 1960-х гадах між людзьмі гаварылася, што Кашалі пераймянуюць на Орлю-Зарэчча. Арлянам тады хацелася, каб Орля стала горадам, хаця яны не ўсведамлялі, што іх Орля была ўжо калісь горадам. Магу сказаць, што ў той час вучні з Кашалёў такую вестку ўспрымалі з задавальненнем, бо і яны былі б гараджанамі. Другой вёскай, злучанай з Орляй з поўначы, з'яўляюцца Міклашы, асабліва зараз, калі адзін тамашні жыхар пабудаваўся на прадаўжэнні вуліцы Ажэшкі.

Я асабіста наведваю згаданыя дзве вёскі даволі рэдка; часцей бываю ў Кашалях. У Міклашы завітаў я 7 красавіка г.г. сфатаграфаваць асвячэнне пасхі побач вулічных крыжоў; раней быў я там з фотаапаратам дваццаць гадоў таму. Вельмі многа памянялася ў самой вёсцы, і асвячэнне памянялася — намнога менш тут людзей, асабліва маладых. Але па чарзе...

## Бежанства

Расказваў мне ў ліпені 1997 года 83-гадовы тады Рыгор Бобер:

— У верасні 1915 года ўсе жыхары Міклашоў падаліся ў Расію ў бежанства. У 1919 годзе пачаўся там голад; наша сям'я жыла ў Варонежскай губерні. Калі насталі чырвоныя, то спалілі запасы пшаніцы і проса, якія там трымалі ў стагах. А пасля гэтага наступіла засуха. Звыш года мы галадалі — елі крапіву і лебяду. У верасні 1921 года вярнуліся ў Польшчу; вярнуліся мы ў спаленыя Міклашы. Было толькі сем хат тых гаспадароў, якія вярнуліся ў 1918 годзе.

## II Сусветная вайна

Спадар Рыгор Бобер пры саветах, пасля трохмесячных курсаў машыністаў паравозаў („качагарак") у Беластоку, працаваў да 1941 года ў паравозным дэпо качагарам і памочнікам машыніста. Пры немцах, з красавіка 1942 да ліпеня 1944 года, працаваў у паравозным дэпо ў Беластоку машыністам пасажырскіх цягнікоў. Калі пад канец чэрвеня 1944 года саветы збамбілі станцыю і горад, вярнуўся ў палове ліпеня ў Міклашы.

— У пачатку ліпеня 1944 года ў Міклашах стаяла нямецкае войска, а ў Орлі — у садзе каля кафлярні і на могілках — ды на калёніі Антанова былі ўжо саветы. Людзі хаваліся па зямлянках. Немцы і саветы ведалі пра сябе, але не арыентаваліся ў баявой сіле ворага. Майму брату акурат уцёк у сад конь. Брат баяўся пайсці за ім, але браціха, Насця Бобер, рашыла злавіць каня. Узяла яна аброць і пайшла ў сад. Там патаемна гутарыла з рускім і расказала яму пра сітуацыю ў вёсцы. Здалёк бачыў гэта немец і калі браціха вярнулася з канём стаў яе распытваць пра рускіх. Немцы раззлаваліся і сталі зганяць усіх жыхароў вёскі на панадворак Чарняўскіх (у канцы вёскі ад Галадоў). Відаць, намерваліся расстраляць нас. Адзін немец гаварыў па-польску і жанчыны пачалі яго прасіць вызваляць невіноўных людзей, тлумачачы, што сяляне давалі немцам малако, харчы. Неўзабаве адпусцілі людзей у зямлянкі. Мабыць, выратавала нас і тое, што раней некаторыя сяляне супрацоўнічалі з немцамі.

26 ліпеня 1944 года вечарам руская разведка падышла да рэчкі і з гучным „Урааа!" прагнала немцаў з бронемашынамі ў Галадоўскі лес. З таго часу 26 ліпеня лічыцца ў Міклашах святам. Удзячныя Богу за выратаванне вяскоўцы ладзяць у гэты дзень абедню. Моляцца пераважна пажылыя людзі, бо маладыя не разумеюць гэтага свята, паколькі яны самі не перажылі жахаў вайны.

## Традыцыя саломапляцення

Вёскі з наваколля Орлі, асабліва пад канец 1960-х і ў 1970-х гадах, славіліся на Падляшшы выплятаннем саламяных вырабаў. Найдаўжэй, бо да пачатку XXI стагоддзя, гэтая традыцыя трымалася ў вёсцы Міклашы. Некаторыя сяляне з восені да першых веснавых прац займаліся саломапляценнем і такім чынам падмацоўвалі свой хатні бюджэт.

У пачатку 1960-х ды ў 1970-х гадах людзі выпляталі саламяныя каробкі, а некаторыя таксама талеркі, збанкі, а нават крэслы. Кожны выплятальнік мог значна паправіць сваю сітуацыю, напрыклад, у Рудутах некаторыя ўзводзілі новыя будынкі, куплялі хатняе абсталяванне, а ў Міклашах людзі мянялі саламяныя стрэхі на чарапіцу. Запатрабаванне на гэтыя вырабы скончылася ў 1980-х гадах.

У Міклашах некаторыя сем'і прадаўжалі пляценне, але выраблялі ўжо іншыя прадметы, найчасцей свайго ўласнага адмысловага дызайну. Так у снежні 1999 года расказваў мне 50-гадовы тады жыхар Міклашоў Уладзімір Палавянюк:

— Вырабам прадметаў з саломы займаемся зімою. Жонка Антаніна нават за хлебам у магазін не ходзіць, сама раз у тыдзень пячэ чатыры боханы, каб не траціць часу. Пляценнем займаюся з 16-га года жыцця. Плялі таксама бацькі Аляксандр і Вера. Маладыя людзі малапрыбытковым рамяством, ад якога баляць рукі, не хочуць займацца. Шукаюць лягчэйшага занятку, а традыцыя трымаецца толькі дзякуючы старэйшым людзям, — сумна канстатаваў Уладзімір Палавянюк.

У Міклашах і ў навакольных вёсках пасумнела, калі не стала Алёшы Рыбачука (29.11.1947-18.02.2007 г.) — кавалера, музыканта-самавука, які ў маладосці многа ўвагі адводзіў спорту. Гуляў ён у футбол, займаўся цяжкай атлетыкай.

Жыхары Міклашоў захапляліся музыкай і танцамі пад адкрытым небам недзе да пачатку 1990-х гадоў. У 1997 годзе Алёша казаў мне:

— На вёсцы няма ўжо ранейшай вяселосці. Людзі ўжо не вытанцоўваюць травы да голай зямлі на маім панадворку. Ад колішніх вяселляў і забаў асталіся толькі ўспаміны. Сёння памянялася мода і музыка, а вясковыя святліцы пустуюць, ніхто ў іх забаў не арганізуе. Калісь у кожнай вёсцы ладзілі забавы; маладыя танцавалі, а старэйшыя глядзелі і пляткарылі. Цяпер іграю толькі на меншых мерапрыемствах: на хрысцінах, вяселлях, пры вогнішчах. У мінулым было весялей і цікавей, а сёння выйдзеш на вуліцу, пастаіш і з нічым вяртаешся ў хату. От, часам выйду перад дом, зайграю, сыдуцца людзі...

## Зараз у Міклашах

Музыкант Алёша быў каларытнай фігурай у вёсцы. Вельмі цікава ўспамінае яго Яўген Ёдла, селянін на пенсіі:

— Калі ў эскаэраўскай канторы была спажывецкая крама з алкаголем (канец 1980-х гадоў), людзі туды сходзіліся. І вось аднойчы ганю я пагон сваіх кароў на пашу, а здалёк чую, што Алёша грае. І не ведаю што рабіць: ці кароў гнаць, ці кідаць і туды бегчы...

Тут трэба адзначыць важны факт. Алёшу Рыбачука пры жыцці людзі і любілі, і ставіліся абыякава — крытыкавалі і нават падсмейваліся. А ён апярэджваў час, чаго можа і сам не ўсведамляў. Гэта ён у 1970-х гадах пачаў спяваць народныя песні пад электрычную гітару. Толькі пасля гадоў народныя песні сталі так выконваць іншыя музычныя калектывы.

* * *

На дзень 30 лістапада 2017 года ў Міклашах пражывала 116 асоб; дзеля параўнання: у 2015 годзе 121 асоба, а ў 2009 годзе — 154 асобы. У Міклашах, як і ў кожнай вёсцы, пераважаюць асобы старэйшыя, мала моладзі, вельмі мала маладых сужонстваў і дзяцей.

У вёсцы шмат пустуючых хат. У іх ліку адрамантаваныя пражываючымі ў гарадах выхадцамі з Міклашоў сядзібы, куды яны прыязджаюць некалькі разоў у год. Ёсць і задбаныя хаты новых, чужых уладальнікаў, для летняга адпачынку. Ёсць і такія, якія чакаюць ахвотнага купца, нішчэюць, а іх панадворкі зараслі самасеем. Гэтыя апусцелыя хаты выглядаюць мабыць так, як у час бежанства.

Але ў Міклашы ўваходзіць таксама зусім новае. Побач вёскі, каля ста метраў ад яе збудаванняў, у выніку рэактывацыі чыгуначнай лініі Бельск — Гайнаўка, упершыню за ўсю яе гісторыю, будзе чыгуначны прыпынак. Будзе перон з нейкім будыначкам, з пад'ездам для інвалідаў. З боку вёскі, ад захаду, ад крыжоў да лініі, на павятовай дарозе мае быць пакладзена асфальтавае палатно.

Як я заўважыў, жыхары асвоіліся ўжо з наяўнасцю тут прыпынку, бо спачатку ставіліся да гэтай навінкі неахвотна, з боязі перад чужымі. Мабыць гэта ажывіць вёску, унясе нейкі аптымізм і іншыя пазітывы.

Памянялася крыху і велікодная традыцыя. Раней быў я тут каля дваццаці гадоў таму. Тады старэйшыя людзі прыносілі для асвячэння ежу ў прыгожа прыбраных велізарных кошыках. Зараз гэта змініцюрызавалася, але таксама выглядае эстэтычна, калярова і багата. Не змяніўся толькі характар мясцовых людзей — яны вельмі мілыя і адкрытыя.



Месца, дзе будзе прыпынак Міклашы

Тэкст і фота **Міхала МІНЦЭВІЧА**

# Новыя цэрквы ў Варшаве


Варшаўская царква Мудрасці Божай

Доўгі час здавалася мне, што ў Варшаве ёсць толькі дзве царквы: на Празе і на Волі. І ўжыўся я з гэтым меркаваннем, аднак час не стаіць на месцы і ў царкоўным жыцці праяўляецца агульная грамадская дынаміка.

Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага з канца XIX стагоддзя паведамляў пра шэсць цэркваў у Варшаве. Не быў гэта поўны пералік сакральных праваслаўных аб'ектаў у царскі час, бо не было там звестак пра капліцы і часоўні ў вайсковых часцях польскай сталіцы. З адыходам з Варшавы расійскага панавання ў ходзе Першай сусветнай вайны ўпаў там лік праваслаўных вернікаў, у тым ліку і цывільных, частка якіх, верагодна, эвакуіравалася ў бежанства. Міжваенны перыяд прынёс новыя палітычныя страсці, у тым ліку і датычныя канфесійнай палітыкі, у выніку якой скарочаны быў лік цэркваў не толькі на Холмшчыне, але і ў іншых часцях Польшчы, у тым ліку і ў Варшаве. У сталіцы ўцалелі, калі не дапускаю тут памылкі, толькі згаданыя дзве царквы.

Са зменай грамадскага строю ў Польшчы і адыходам ад афіцыйнага атэізму ў рэлігійным жыцці краіны наступіў перыяд буйнага сакральнага будаўніцтва. Не толькі каталіцкія касцёлы ўзводзіліся ў масавых маштабах, але і праваслаўе таксама напружыла будаўнічыя мускулы; новыя цэрквы выраслі ў Беластоку, Бельску, Гайнаўцы і іншых мясцовасцях. І апошнім часам далучылася да гэтых праўвінцыйных асяродкаў і сталічная Варшава...

Раней згадвалася пра капліцы і часоўні ў вайсковых часцях. Цяпер рэлігія вярнулася зноў у войска, у тым ліку і праваслаўе. У 1991 годзе быў створаны Праваслаўны ардынарыят Войска Польскага, а яго першым ардынарыем быў назначаны два гады пазней тадышні беластоцка-гданьскі архіепіскап Сава. З выбарам у 1998 годзе архіепіскапа Савы на пасаду першастаяцеля Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы быў назначаны новы вайсковы ардынарый — архіепіскап Міран, а пасля ягонай смерці ў авіякатастрофе каля Смаленска ў 2010 годзе чарговым ардынарыем Войска Польскага стаў епіскап Георгій, зараз архіепіскап вроцлаўска-шчэцінскі. Спярша сядзіба польскага праваслаўнага ардынарыята знаходзілася ў комплексе будынкаў мітраполіі, затым была яна перабазіравана ў вайсковую часць па вуліцы Банаха, дзе ў 2004 годзе была ўладжана капліца пад заступніцтвам годам раней узведзенага ў сан холмскіх і падляшскіх святых Васілія Мартыша. Сёлета, 31 сакавіка, у казарменным комплексе па вуліцы Францішка Гынка, 2, была асвечана царква пад заступніцтвам велікамучаніка Георгія.

Названыя раней дзве царквы знаходзіліся крыху на поўнач ад цэнтра Варшавы. Толькі што згаданая вайсковая царква апынулася ў паўднёвай частцы сталіцы. На самай паўднёвай камчатцы Варшавы, амаль на мяжы з Пясэчнам, узводзіцца новая прыходская царква, будаваная сіламі пражываючых у Польшчы праваслаўных вернікаў. Гэтая царква спасылаецца на бадай найбольш вядомую візантыйскую царкву Мудрасці Божай у Канстанцінопалі, пабудаваную пры імператары Юстыніяне. Кшталтам яна нагадвае менавіта той знакавы храм, узведзены ў пік візантыйскай магутнасці, хаця кубатурай значна меншая.

Крыху цікавінак пра канстанцінопальскі храм; Вікіпедыя: „Дзеля ўзвядзення грандыёзнага храма Юстыніян выкупіў у прыватных уладальнікаў найбліжэйшыя ўчасткі зямлі і загадаў знесці збудаванні, што стаялі там. Для кіравання работамі Юстыніян запрасіў самых лепшых архітэктараў таго часу: Ісідара Мілецкага і Анфімія Тральскага, якія раней зарэкамендавалі сябе ўзвядзеннем царквы Святых Сергія і Вакха. Пад іх кіраўніцтвам працавала штодзённа па 10 000 рабочых. Небачанае і нечуванае хараство храма да такой ступені ўражвала народную фантазію, што пачалі хадзіць легенды аб непасрэдным удзеле ў яго збудаванні нябесных сіл. Паводле аднае з легенд, Юстыніян хацеў пакрыць золатам сцены Святой Сафіі ад падлогі да скляпенняў, але астролагі прадказалі, што «ў канцы вякоў прыйдуць вельмі бедныя цары, якія, з мэтай захапіць усе багацці храма, зрыюць яго да падмурка», і імператар, які клапаціўся аб сваёй славе, абмежаваў раскошу збудавання.




У патранальнае свята св. Георгія літургію ў вайсковай царкве служыў праваслаўны ардынарый Войска Польскага, архіепіскап вроцлаўска-шчэцінскі Георгій

Царква св. Георгія ў Варшаве

Будаўніцтва сабора паглынула тры гадавыя даходы Візантыйскай імперыі. «Саламон, я пераўзышоў цябе!» — такія словы вымавіў, згодна з паданнем, Юстыніян, увайшоўшы ў пабудаваны сабор і маючы на ўвазе легендарны Іерусалімскі Храм. Урачыстае асвячэнне храма 27 снежня 537 года справіў канстанцінопальскі патрыярх Міна. 16 ліпеня 1054 года ў Сафійскім саборы на святым алтары ў час богаслужэння легатам папы рымскага кардыналам Гумбертам канстанцінопальскаму патрыярху Міхаілу Керуларыю была ўручана адлучальная грамата. (Іменна гэту дату прынята лічыць датай расколу цэркваў на каталіцкую і праваслаўную.) У часы Візантыйскай імперыі сабор знаходзіўся ў цэнтры Канстанцінопаля каля імператарскага палаца. У цяперашні час знаходзіцца ў цэнтры Стамбула, у раёне Султанахмет. Пасля захопу горада асманамі ў 1453 годзе, Сафійскі сабор быўператвораны ў мячэць, а ў 1935 годзе атрымаў статус музея. У 1985 годзе сабор разам з іншымі помнікамі гістарычнага цэнтра Стамбула быў залічаны ў склад Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Больш за тысячу гадоў Сафійскі сабор быў самым вялікім храмам у свеце, да таго моманту пакуль не быў пабудаваны Сабор Святога Пятра ў Рыме. Вышыня сабора — 55,6 метра, дыяметр купала — 31 метр".

Яшчэ раз Вікіпедыя: „Kościół został ograbiony i zbezczeszczony w 1204 przez rycerstwo zachodnie podczas IV krucjaty. Aż do odzyskania Konstantynopola w 1261, za panowania Michała VIII Paleologa, kościół służył katolikom. Ostatnie nabożeństwo odbyło się tu 28 maja 1453, brali w nim udział zarówno prawosławni, jak i katoliccy obrońcy Konstantynopola. Tamten pamiętny wieczór tak opisuje Donald M. Nicol: Gdy zaczął zapadać wieczór, ludzie instynktownie udali się do kościoła Mądrości Bożej. Żołnierze trwali na swych posterunkach wzdłuż murów. Reszta, wszystko jedno — Grecy czy łacinnicy, tłoczyła się w wielkiej świątyni, zanosząc modły o oswobodzenie. Wspólny strach i niebezpieczeństwo sprawiły większy cud niż wszystkie sobory razem wzięte. Prawosławni biskupi, księża i mnisi, którzy zarzekali się głośno, że noga ich nie postanie w katedrze, póki nie oczyści się jej z rzymskiego skażenia, teraz podeszli do ołtarza, aby połączyć się z katolickimi braćmi we wspólnej liturgii...".

А цяпер тая ж Вікіпедыя пра варшаўскую царкву: „Świątynia znajduje się w warszawskiej dzielnicy Ursynów, na osiedlu Dąbrówka, przy ulicy Puławskiej 568.

Cerkiew została zaprojektowana przez warszawskiego architekta Andrzeja Markowskiego. Wzorowana jest na konstantynopolitańskiej świątyni Hagia Sophia. Obiekt będzie miał 36,9 m długości, 30 m szerokości, natomiast wysokość (łącznie z centralną kopułą o średnicy 16,2 m, która zostanie pokryta miedzią) osiągnie 21,6 m. Ściany zostaną ozdobione mozaikami i freskami. Świątynia będzie posiadała dwa ołtarze — boczny pod wezwaniem św. męczennika Pantelejmona. Dzwonnica zostanie wyposażona w 10 dzwonów. Zgodnie z prawosławną tradycją główne wejście znajdzie się od strony zachodniej, a dwa boczne — od północnej i południowej. Prace przygotowawcze do wzniesienia cerkwi rozpoczęto w 2015 r. 5 grudnia tegoż roku patriarcha Konstantynopola Bartłomiej poświęcił kamień węgielny pod budowę świątyni. Cerkiew Mądrości Bożej jest pierwszą budowaną po przeszło 100 latach wolnostojącą świątynią prawosławną w Warszawie. Jest wotum wdzięczności Bogu za dar 25-lecia demokratycznych przemian w Polsce i 90. rocznicę uzyskania autokefalii przez polski Kościół prawosławny".

Беларускі партал sobor.by: „Польская столица в межвоенный период — 20-е-30-е годы 20 столетия — утратила множество православных церквей, которые воспринимались поляками как наследие царской России. У православных верующих осталось только 2 полноценных храма — ныне кафедральный собор равноапостольной Марии Магдалины в районе Прага и кладбищенская церквушка Иоанна Лествичника в предместье Воля. В последнее время появились и домовые церкви, часовни. Так, при музее православной иконы на Лелеховской, 5 действует часовня в честь священномученика Григория Перадзе, среди её прихожан — известный в Польше архитектор Анджей Марковский. Пан Анджей — этнический поляк, принявший Православие по зову сердца. Архитектора пленила красота восточнохристианской традиции, в том числе и красота православного зодчества. Именно проект Анджея Марковского будет реализован при строительстве варшавской святой Софии — первого за последние сто лет нового православного храма в польской столице".

У суботу, 19 мая, у варшаўскай царкве Мудрасці Божай будзе адслужана першая літургія і будуць асвечаны накупальныя крыжы.

Тэкст і фота
**Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Баптысты на Падляшшы



Пакрыўдзіўся мой дзед Васіль Міранчук, што я ў «Ніве» апісаў праваслаўны Вялікдзень, а нічога не напісаў, што разам з праваслаўнымі на Падляшшы Вялікдзень паводле юліянскага календара святкуе мой дзед і ўся радня маёй маці, а яны ж — пратэстанты. Я вельмі кахаю майго дзеда Ваську, па якім генетычна я маю паэтычны дар. Дзед мой паэт і я, унук яго, таксама паэт. Я ганаруся сваім дзедам, таму што ён разумны, мае цудоўную гістарычную памяць. Да таго мой дзед вельмі добра ведае Біблію.

Я — веруючы чалавек, хаця з мяшанай сям'і. З боку майго бацькі большасць праваслаўных, хаця сястра майго дзеда выйшла за каталіка з-пад Тапчэва і ўся яе сям'я — каталікі. Таксама родная сястра майго бацькі цётка Надзя ўцякла з маім дзядзькам Юзікам пад Вроцлаў. Іх сыны, унукі і праўнукі — каталікі. З боку маёй маці большасць вялізнай сям'і — пратэстанты баптысты, якіх з праваслаўнай веры перавёў мой прадзед Іван Міранчук, раней гарманіст і майстар на ўсе рукі, сталяр, будаўнік. Вянчаўся ён з маёй прабабуляй Параскевай — дачкой Дзяміда Петрушкевіча. Дзямід мой прапрадзед быў каталіком і перахрысціўся на праваслаўную веру, таму што жаніўся з маёй прапрабабуляй Марыяй з дому Корзун, якая была праваслаўнай.

Чаму мой прадзед Іван Міранчук, які з Маліннік прыступіў да прабабулі Параскевы, пакінуў праваслаўную веру? Паводле расказу майго дзеда Васіля, на яго бацьку Іване аб'явіўся цуд. Ён, будучы праваслаўным, быў вельмі добрым гаспадаром. Мой прадзед быў вельмі багаты, таму што быў сталяром, будаваў людзям хаты, стадолы, хлявы. Ён вельмі добра зарабляў і мог утрымаць са сваіх залатых рук васьмёра сваіх дзяцей, але меў слабасць — любіў папіваць. Аднойчы, вяртаючыся восеньскім вечарам з Маліннік у Рудуты, п'яны заснуў у лесе на сырой зямлі. З гэтай пары Іван стаў кашляць крывёю. Пачаў лячыцца ў розных лекараў, якія паставілі дыягназ — туберкулёз. Малілася ўся сям'я і нічога не памагло. Як кажа старая прымаўка: тонучы хапаецца нават за саломінку. Прадзед Іван даведаўся, што дзесьці сустракаюцца баптысты. Пайшоў на іх маленне і яны за яго так памаліліся, што аздаравеў. У Рудутах людзі аб'явілі, што мой прадзед Іван баптыст, таму ўся сям'я разам з маім дзедам Васілём пахрысціліся ў баптысты. У праваслаўі засталася найстарэйшая сястра Ганна, якая выйшла замуж у Кашалі і дзедаў брат Ванька, які шчасліва вярнуўся з Другой сусветнай вайны, ажаніўся з праваслаўнай і памёр у праваслаўі. Таксама старэйшы брат майго дзеда Міцька пайшоў у прыступы да праваслаўнай жонкі ў Вульку каля Орлі. Усе астатнія жаніліся або павыходзілі замуж за баптыстаў. Яркім прыкладам з'яўляецца малодшая сястра дзеда, а маёй мамы цётка Надзя, якая замуж выйшла ў Маліннікі за мясцовага пастара баптыстаў Віктара Баршчэўскага. У хаце дзеда Віктара адбываліся сходы і нядзельныя малітвы баптыстаў з Маліннік і навакольных вёсак. Дзед Віктар у Малінніках карыстаўся вялікай пашанай і аўтарытэтам, таму што гэта быў вельмі разумны чалавек і можа таму дажыў глыбокай старасці.

Мая мама, так як і яе двух братоў і сястра былі баптыстамі. Аднак мая мама была вельмі прыгожай, тоненькай бландзінкай з доўгімі валасамі і сваталася да яе многа кавалераў, у тым ліку і баптыстаў. Выбрала яна майго тата — стройнага кавалера, але праваслаўнага. Абое не хацелі мяняць сваёй веры і мо таму ўзялі грамадзянскі шлюб. Я асабіста да баптыстаў нічога не маю, таму што большасць маёй сям'і з боку мамы гэта баптысты, а ў Малінніках пражывае восем сем'яў баптыстаў. Гэта добрыя, ціхія людзі, якія нікога без патрэбы не чапаюць, не п'юць алкаголю, не кураць папяросаў і жывуць паводле закону Бібліі.

У ЗША, напрыклад, пражывае амаль дваццаць мільёнаў баптыстаў, а самымі папулярнымі баптыстамі з'яўляюцца вядомы амерыканскі акцёр Брад Піт і экс-прэзідэнт ЗША Барак Абама. У Расіі пражывае 2,56 мільёна баптыстаў, у тым 78% рускай нацыянальнасці. У Польшчы 5390 чалавек з'яўляецца баптыстамі. На Украіне больш за мільён гэта паслядоўнікі баптысцкай веры, а на Беларусі баптыстаў больш за 13 тысяч.

Чаму я не баптыст? Ад малога ў маёй сям'і ішла вайна за веру, якую перамог мой бацька. Менавіта мы з сястрою выбралі праваслаўную веру, таму што нам больш падабаецца праваслаўная духоўнасць, глыбіня веры праваслаўя, строгія законы і пасты, якіх няма ў пратэстантаў. Дарэчы, мае прапрадзеды па лініі маёй матулі, як і бацькі былі праваслаўнымі і таго трымаюся, бо гэта гісторыя. А баптыстаў я вельмі паважаю, таму што мая матуля, мой дзед і яго радня — баптысты і я іх не намаўляю мяняць веру. Я праваслаўны, разам са сваёй жонкай, а хай яны будуць баптыстамі.

Юрка БУЙНЮК




Скандынаўскія краіны маюць нейкі свой шарм і прывабнасць — знаходзяцца на поўначы кантынента, маюць суворую прыроду, але навучыліся неяк жыць так, што людзям з краін з больш лагодным кліматам застаецца толькі зайздросціць. Хоць яшчэ тысячу гадоў таму жыхароў тых скалістых мясцін пужалася цэлая Еўропа, цяпер паўночнаеўрапейскія народы ёсць тымі, з каго варта браць прыклад у розных галінах жыцця — як у грамадска-палітычных адносінах, так і ў гаспадарцы, у прыватнасці — у будаўніцтве.

Месцы, дзе спрадвеку селяцца беларусы, канешне, адрозніваюцца ад фінскіх, шведскіх ці нарвежскіх тэрыторый, але ёсць і падабенствы. У першую чаргу, гэта марозныя зімы. Каб перажыць халодную пару года, трэба мець добры цёплы будынак. І хоць беларусы здаўна навучыліся будаваць такія дамы, скандынаўскія ўсё ж лічацца лепшымі. Таму не дзіўна, што ў цяперашні час, калі атрымаць інфармацыю аб нечым вартым даволі лёгка, беларусы будуюць жыллё і на скандынаўскі манер. Займаюцца гэтым будаўніцтвам розныя фірмы як у Беларусі, так і ў Польшчы, але па-беларуску абслугоўвае сваіх кліентаў толькі адна, якая завецца „Буслянка". Яе сайт месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://buslyanka.by**.

„Гаспадар заўсёдна-беларускамоўны чалавек у жыцці. Сайт робіцца найперш па-беларуску, будзе пашырацца і напаўняцца праектамі", — распавядае пра фірму і яе сайт партал беларускамоўнага бізнесу „Свае".

„Маё захапленне праектамі скандынаўскіх дамоў пачалося падчас падарожжа па Ісландыі і канчаткова захапіла мяне на наступны год, калі я падарожнічаў аўтаспынам на Нарвегіі, Швецыі і Фінляндыі. Вонкавы выгляд скандынаўскіх дамоў вельмі стыльны: драўляныя фасады з вялікімі вокнамі, прыстроеныя тэрасы, простыя формы, якія выглядаюць вельмі арганічна. Падчас гэтых падарожжаў даваліся пазнаёміцца і з унутранай вельмі прадуманай і рацыянальнай планіроўкай, якая вельмі адрозніваецца ад нашых так званых „кватэрных" планіровак. Амаль усе прыватныя дамы ў скандынаўскіх краінах — гэта дамы каркаснага тыпу, якія адрозніваюцца энергаэфектыўнасцю. Так пачалося маё дэтальнае вывучэнне скандынаўскіх каркасных дамоў", — перадае ў рубрыцы „Артыкулы" гісторыю свайго зацікаўлення паўночнаеўрапейскімі будынкамі невядомы аўтар, які, праўдападобна, і ёсць тым самым гаспадаром „Буслянкі". Праўда, у артыкуле не тлумачыцца, што натхніла ўладальніка фірмы назваць яе „Буслянкай". Можа, калі б прычыны былі ўказаныя, мы б зразумелі, чаму сайт аб скандынаўскіх дамах пайменаваны назвай гнязда той птушкі, якая, як гэта не прыкра, не водзіцца ў Скандынавіі і гнёздаў там не ўе.

Па ўсім відаць, такая акалічнасць не засмучае ўладальніка „Буслянкі" і ён смела прапануе свае паслугі. „Вы можаце скарыстацца нашым каталогам, дзе змяшчаецца больш 60 спасылак на сайты скандынаўскіх домабудаўнічых кампаній. З такога шэрагу варыянтаў вы можаце выбраць упадабаны праект. Безумоўна, тое, што вы знойдзеце на сайтах, праектамі назваць складана. Звычайна гэта выявы планіровак і вонкавага выгляду дома. Набыць праект у саміх скандынаўскіх кампаній у вас не атрымаецца, але мы можам на падставе планіроўкі і вонкавага выгляду распрацаваць дэтальны праект-дублікат, паводле якога мы зможам пабудаваць ваш дом", — кажа „скандынаўска-беларускі буслянчык".

Аляксандр ЯКІМЮК




# 14 траўня 1918 года!

14 траўня 1918 года, роўна сто гадоў таму, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі даручыла Раману Скірмунту фармаванне новага ўрада маладой дзяржавы. Фармаванне БНР ішло ў вельмі неспрыяльных палітычных умовах, дасягнуць рэальнага суверэнітэту было надзвычай цяжка. Тым не менш многія выдатныя беларускія дзеячы прыкладалі ўсе высілкі, каб дамагчыся дыпламатычнага і іншага прызнання новай беларускай дзяржавы.

У пачатку траўня 1918 года з урада і Рады сышлі вядомыя дзеячы-сацыялісты. Склаў свае паўнамоцтвы і прэм'ер Язэп Варонка. У выніку правацэнтрысты атрымалі ў Радзе бальшыню і сфармавалі новы ўрад на чале з Раманам Скірмунтам.

Найбольшых поспехаў урад БНР дасягнуў у культурным будаванні і развіцці адукацыі. За кароткі час паводле розных падлікаў адкрыліся ад 150 да 350 беларускіх школ, у тым ліку гімназіі ў Менску, Будславе, Навагарадку, Гродне, Слуцку. Падрыхтоўка настаўнікаў, апроч Свіслацкай гімназіі, вялася ў Менскім педагагічным інстытуце, рыхтавалася адкрыццё Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (гэтай справай займаліся вядомыя асобы — Аркадзь Смоліч, Мітрафан Доўнар-Запольскі, Яўхім Карскі, Усевалад Ігнатоўскі, іншыя навукоўцы). У планах стваральнікаў БНР было таксама адкрыццё сельскагаспадарчага і політэхнічнага інстытутаў.

У красавіку 1918 года адкрылася Менская вышэйшая музычная школа, пераўтвораная ў тым жа годзе ў Беларускую кансерваторыю. Заняткі пачаліся і ў адноўленай Каталіцкай духоўнай семінарыі (яе рэктарам стаў доктар філасофіі, беларускі святар Фабіян Абрантовіч).

Па ініцыятыве Антона Луцкевіча ў 1918 годзе ўтварылася першая беларуская навуковая ўстанова — Беларускае навуковае таварыства ў Вільні. Вялася падрыхтоўчая праца да адкрыцця Віленскай беларускай гімназіі.

У 1918 годзе ў БНР на беларускай мове выходзіла 6 газет. Прыкладам газета „Беларускі шлях". Выдавалася з 8 сакавіка да 23 жніўня 1918 года ў Мінску ва ўмовах нямецкай акупацыі. Рэдактарам-выдаўцом першага нумара быў Павел Аляксюк. З другога нумара да канца выдання рэдактарам быў Алесь Гарун (Аляксандр Прушынскі), выдавец — таварыства „Заранка" (старшыня Аляксюк, пісар Аляксандр Уласаў). Выданне супрацоўнічала з газетай „Вольная Беларусь" (мела агульных аўтараў, абменьвалася матэрыяламі). Мэта выдання — сацыяльна-эканамічнае і культурнае адраджэнне Беларусі, яе дзяржаўная самастойнасць і суверэнітэт. Падтрымлівала палітыку Рады БНР і яе выканаўчага органа — Народнага Сакратарыята Беларусі. Газета грунтоўна асвятляла нацыянальны грамадска-палітычны і культурны рух, змяшчала інфармацыю пра беларускі асветніцкі рух у гарадах, мястэчках і вёсках, пра дзейнасць Рады БНР, палітычных партый і груповак.

Стварэнне БНР дало магутны штуршок беларускаму культурнаму Адраджэнню. Яно актывізавала творчую беларускую інтэлігенцыю. Дзяржаўныя органы БНР не сустракалі перашкод з боку нямецкіх акупацыйных улад у дзейнасці ў галіне культуры.

У гэты перыяд выходзілі 3 часопісы, дзейнічала 11 выдавецтваў. Прыкладам выдавецтва „Адукацыя" актыўна друкавала падручнікі для школ. 19 траўня 1918 года на базе Таварыства драмы і камедыі ўзнік Беларускі дзяржаўны тэатр БНР. Дзеілі Таварыства працаўнікоў мастацтва, Драматычная секцыя Беларускай тэатральнай грамады, якімі кіравалі Уладзіслаў Галубок, Фларыян Ждановіч і Усевалад Фальскі. Гэтыя і іншыя культурніцкія поспехі, аднак, былі толькі часовымі заваёвамі.

Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Моладзь у Гродне змагалася за залікова кніжкі польскага ўніверсітэта

У Гродне адбыўся XXIII Гістарычны конкурс «Мінулае Польшчы», ладжаны арганізацыяй Польская мацеж школьна пад патранатам Прыродазнаўча-Гуманітарнага ўніверсітэта ў Седльцах. Галоўнай узнагародай конкурсу з'яўляецца паступленне на навуку ў ПГУ. Мэта конкурсу — папулярызацыя ведаў па гісторыі Польшчы сярод моладзі польскага паходжання ў Беларусі. Паколькі 2018 год асаблівы — Рэч Паспалітая Польская адзначае стагоддзе атрымання Незалежнасці, сёлетнія спаборніцтвы праходзілі пад лозунгам «Гісторыя Незалежнай Польшчы». У фінале конкурсу і ўрачыстым яго заканчэнні прынялі ўдзел таксама настаўнікі, бацькі і консул РП у Гродне **Анджэй Рачкоўскі**.

У выніку адбору ў фінал перайшлі 32 асобы. Камісія, якую складалі д-р габ. **Яраслаў Цабай**, праф. ПГУ (старшыня), д-р габ. **Адам Бобрык**, праф. ПГУ (намеснік старшыні) і дац. д-р **Станіслаў Сянкевіч**, пасля правядзення пісьмовага тэсту і вуснага экзамену вылучыла лаўрэатаў у дзвюх катэгорыях. Сярод вучняў матуральных класаў найлепшыя вынікі дасягнулі: I месца **Юлія Супрун** (Мінск), II — **Міхал Грэбень** (Ваўкавыск) і **Дзяніс Торч** (Гродна), III — **Алег Юзвовіч** (Слонім) і **Яўген Мельнікаў** (Гродна). Пераможцамі сярод вучняў перадматуральных класаў сталі: I месца — **Андрэй Гайдук** (Гродна), II — **Альжбета Боўбель** (Маладзечна), III — **Тацяна Рухавец** (Гродна) і **Ян Гаўрылюк** (Ваўкавыск).

**Тэрэса Крышынь** з Польскай мацежы школьнай паведаміла «Ніве», што ў дадзены момант у Беларусі ў публічных школах з польскай мовай выкладання вучыцца 895 вучняў. Апрача таго 421 вучань вучыцца польскай мове як прадмету, а 5447 — наведвае пазаўрочныя заняткі. А ў грамадскіх школах, у якіх дадаткова выкладаецца польская мова, гісторыя і геаграфія Польшчы, вучыцца 6017 школьнікаў. Разам у розных формах навучання польскай мове ўдзельнічае 12 815 вучняў, у тым ліку ў Гродзенскай вобласці — 7054, Брэсцкай — 2442, Мінскай — 2189, Віцебскай — 706, Магілёўскай — 375 і Гомельскай — 49.

**Адам БОБРЫК**
**Фота Уладзіміра ЛЯЎШУКА**

■ Лаўрэаты конкурсу разам з членамі журы

PROLOG
IV DNI KULTURY I PIŚMIENNICTWA SŁOWIAŃSKIEGO
19-24 MAJ 2018

**19 MAJA (SOBOTA)**
HRYNIEWICZE DUŻE – KOTŁY
PROLOG W MAŁEJ OJCZYŹNIE PROFESORA IGNACEGO DANIŁOWICZA (1788-1843), W 230-TĄ ROCZNICĘ JEGO URODZIN
14.00 KOROWÓD SPOD CERKWI ŚW. ELIASZA W HRYNIEWICZACH DUŻYCH DO WSI KOTŁY
16.00 OTWARCIE WYSTAWY: WIEŚ KOTŁY NA GOŚCIŃCU LITEWSKIM
KONCERT ZESPOŁÓW: WASILOCZKI (BIELSK PODLASKI), ŻEMERWA (STUDZIWODY), ŻOŹBŁO (GDAŃSK), HAMANINA (MIŃSK)

**20 MAJA (NIEDZIELA)**
CERKIEW POKROWSKA – OPIEKI MATKI BOŻEJ
9.00 LITURGIA ŚWIĘTA, PO LITURGII KONCERT MUZYKI PARALITURGICZNEJ W WYKONANIU CHÓRU IM. A. RASZCZYŃSKIEGO (MIŃSK) ORAZ GRUPY „ŻOŹBŁO" (GDAŃSK)
BIELSK PODLASKI – ULICA DUBIAŻYŃSKA (PARKING PRZY CERKWI OPIEKI MATKI BOŻEJ)
12.00 – 18.00 KIERMASZ KSIĄŻEK, SPOTKANIA Z AUTORAMI; JARMARK RĘKODZIEŁA, POKAZ ETNO-MODY
KONCERT ZESPOŁÓW: TAUKACZYKI (KOBRYŃ), ŻEMERWA (STUDZIWODY), KAPRYS (BIELSK PODLASKI), MAŁANKA (BIELSK PODLASKI), ŻOŹBŁO (GDAŃSK), CHÓR IM. ALEKSANDRA RASZCZYŃSKIEGO (MIŃSK), HAMANINA (MIŃSK), U NIESKŁADOWAJE (MIŃSK)

**21 MAJA (PONIEDZIAŁEK)**
PARK KRÓLOWEJ HELENY
10.00 ODSŁONIĘCIE RZEŹBY POMNIKOWEJ „WIELKI WALNY SEJM BIELSKI AD 1564"
BIELSKI DOM KULTURY UL. 3-GO MAJA 2
10.30 UROCZYSTOŚĆ, POŚWIĘCONA BIELSKIEMU SEJMOWI WIELKIEMU
- WIELKIE KSIĘSTWO LITEWSKIE I DZIEDZICTWO BIELSKIEGO SEJMU WIELKIEGO: PANEL DYSKUSYJNY Z UDZIAŁEM HISTORYKÓW
- KONCERT CHÓRU IM. A. RASZCZYŃSKIEGO ORAZ ZESPOŁU „U NIESKŁADOWAJE"
MIEJSKA BIBLIOTEKA PUBLICZNA UL. KAZIMIERZOWSKA 14
13.00 KONFERENCJA NAUKOWA: CERKIEW PRAWOSŁAWNA NA PODLASIU, POLESIU I GRODZIEŃSZCZYŹNIE
16.00 SPOTKANIA AUTORSKIE Z ANATOLEM HŁADYSZCZUKIEM Z BRZEŚCIA ORAZ GRZEGORZEM JACKIEM PELICĄ Z ŁĘCZNEJ

**22 MAJA (WTOREK), ŚW. MIKOŁAJA CUDOTWÓRCY**
10.00 LITURGIA ŚWIĘTA W CERKWI MICHAJŁOWSKIEJ I PROCESJA ULICAMI MIASTA
MIEJSKA BIBLIOTEKA PUBLICZNA UL. KAZIMIERZOWSKA 14
14.00 KONFERENCJA NAUKOWA
17.00 PETERGOF I MOJE PODLASKIE KORZENIE - SPOTKANIE Z DR IRYNĄ PASZCZYŃSKĄ Z PETERGOFU K. SANKT-PETERSBURGA

**23 MAJA (ŚRODA)**
CERKIEW POKROWSKA – OPIEKI MATKI BOŻEJ
17.00 CAŁONOCNE CZUWANIE
ŚPIEWANE MELODIAMI BIZANTYJSKIMI PRZEZ CHÓR MNISZEK MONASTERU W TURKOWICACH

**24 MAJA (CZWARTEK), ŚW. CYRYLA I METODEGO**
CERKIEW POKROWSKA – OPIEKI MATKI BOŻEJ
10.00 LITURGIA ŚWIĘTA
ŚPIEWANA MELODIAMI BIZANTYJSKIMI PRZEZ CHÓR MNISZEK MONASTERU W TURKOWICACH

ORGANIZATORZY:
HONOROWY PATRONAT:
WSPÓŁORGANIZATORZY:
DOFINANSOWONOŚCI ŚRODKÓW:
SPONSORZY:

# 20.05 — 26.05

**(22.03. — 20.04.)** Лёгка злавацца, але гэта не паправіць адносін. Можаш пасварыцца з сябрамі за грошы. Можа хтосьці, каму ты пазычыў, выкрасліў гэты факт з памяці? Хопіць, што чымсьці пахвалішся, адразу будзеш на языках. На працы поспех чакае там, дзе патрэбны адвага, упартасць і воля. Але не ідзі да мэты «па трупах». Пасля 24.05. твой праект, над якім ты працаваў так заўзята, прайграе з іншым — проста выйграе лепшы. Не еж перад сном.

**(21.04. — 21.05.)** Шчасце фармальных пар, завязаных цяпер. Можаш пацікавіцца кімсьці вартым увагі. Але распытай пра гэтую асобу ў знаёмых, ці яна свабодная. Будзеш мець час на хобі, гутаркі, імпрэзы. Не засланяйся абавязкамі, выходзь, запрашай гасцей, цешся кампаніяй. Бык з III дэкады мае асаблівае шчасце да людзей. Выкарыстоўвай знаёмствы. Стартуй са сваёй фірмай. Можаш купіць жытло. Але можа лепш задумайся ці больш інвеставаць. Ды з 24.05. (да 28.05.) не пашкадуй грошай на штосьці, што можа быць неабходным, бо страціш у два разы! Энергіі аж надта!

**(22.05. — 22.06.)** Наладжвай кантакты, прымай запрашэнні, асабліва калі ты народжаны ў I дэкадзе. Вельмі пільнуйся з дакументамі: не згубі іх 22-24.05., бо страціш давер шэфа! Давядзі да фіналу ўсе справы; 22-24.05. можа трэба будзе кагосьці заступіць або пасля кагосьці папраўляць. Не бунтуйся, а ўзнагарода цябе не абміне. У фінансах вельмі добрыя прагнозы. Ад 21.05. больш вітальных сіл.

**(23.06. — 23.07.)** Удасца табе прыручыць ворагаў! Самотныя Ракі будуць вабныя і прыгожыя. Круціцеся там, дзе кіпіць кампанейскае жыццё. У хатніх справах не слухай парад сваякоў — сам ведаеш, што для цябе найлепшае. Трэба будзе сплаціць доўг удзячнасці з 24.05. (да 28.05.). Добры час на абучэнні, здабыванне новых умеласцей, неўзабаве прыдатных. 22-24.05. нагоды да наладжвання інспіруючых знаёмстваў.

**(24.07. — 23.08.)** Час спрыяе рэвалюцыйным рашэнням. Магчымыя змены ў пастаянных парах, неабавязкова ў лепшы бок. Ільвы, народжаныя ў першыя дні знака, могуць аказацца недаспелымі да сур'ёзных рашэнняў. На працы час належыць да цябе! Ніхто цябе не апярэдзіць, пасадзіш на месца тых, хто на цябе звальваў усю чорную работу і краў твае задумы. Старайся быць як найбольш відным на працы, на сходах. Не бойся саперніцтва.

**(24.08. — 23.09.)** Не замятай праблем пад дыван — 22-24.05. могуць прагучаць з падвойнай сілай. Зараіцца вакол цябе ад вельмі цікавых людзей, з якіх вылучыш асаблівую, адзіную асобу. Сярод сяброў адпачывай ад хатніх спраў. Прыдадуцца новыя ўмеласці. Найбольш прыемнасці прынясе нематэрыяльнае, напрыклад, прыгода. 22-24.05. паявяцца нагоды для папраўы памылак і непаразуменняў.

**(24.09. — 23.10.)** 21-25.05. усё, што вырашыш, удасца зрэалізваць. Але 22-24.05. можаш ляпнуць штосьці, з чаго цяжка будзе вытлумачыцца. Будзеш капрызны і патрабавальны. Таму не здзіўляйся, што тваіх прыхільнікаў стане менш. Займуць цябе справы дзяцей, трэба будзе ім дапамагчы. 22-24.05. цяжкія візіты сваякоў, якія схочуць усюды ўціснуць свой нос. З 24.05. (да 28.05.) лепш не пытайся ў шэфа пра павышэнне. Доўгія чэргі да ўрачоў з 24.05., можа лепш запішыся прыватна.

**(24.10. — 22.11.)** Дасягнеш усяго, чаго хочаш. Адвагі, каб пазмагацца за пасаду, дастаткова будзе 22-24.05. 22-24.05. дасканалы час, каб паправіць складаныя сітуацыі. Можаш кончыць няўдалыя лады. Добры час на заручыны, шлюб, павелічэнне сям'і. Скарпіён з I дэкады: не адкладвай паходу да лекара. Неакрэсленыя апаскі, горшы сон. 22-24.05. можаш адчуць, што кепска да цябе паставіліся.

**(23.11. — 22.12.)** 20-26.05. удасца табе моцна паправіць сваю форму. Пераканаешся, аднак, што не ўдасца змяніць свайго партнёра. У пастаянных парах лепш, калі будзеце гаварыць кампліменты адзін аднаму. Дакажаш сваю лаяльнасць радні і калегам. У кашалёк заляціць пару злотых.

**(23.12. — 20.01.)** Шчасліва давядзеш свае справы да фіналу. 22-24.05. выявіцца твой талент да зараблення грошай. Зоркі забяспечваюць твае інтарэсы, але больш пільнуй партнёра. 24-26.05. час спробы ў пары. Паявяцца грошы, добра пойдуць справы ва ўстановах. Дбай аб сваё здароўе, апранайся цёпла рана і ўвечары; не адкладвай візіту ў лекара.

**(21.01. — 19.02.)** 21-25.05. будзеш смелым, баявітым і вельмі паспяховым. Няхай цябе не знеахвоціць параза. Не адмаўляйся ад сваіх планаў. Няхай не мінае твой запал да практыкаванняў! Каб спаліць тлушч і зрабіць класную фігуру, трэба часу!

**(20.02. — 21.03.)** Някепска на рахунку. У пары будзеш ведаць на чым стаіш. Адчуеш палёгку. Ніхто табе ў нічым не зможа адмовіць. Купі штосьці прыгожага ў хату. Самотныя Рыбы вельмі папулярныя. Калі марыце аб шлюбе, Венера ў Раку паможа здзейсніць мары. 24-24.05. зялёнае святло ў прафесіі, выезды, камандзіроўкі, важныя сустрэчы, лепшыя грошы і пасада; калі шукаеш працу — мноства прапаноў. Можаш добра прадаць непатрэбную рэч або купіць добрую, хаця ўжываную. З 24.05. (да 28.05.) чакае цябе нялёгкае рашэнне.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

1. нашчадак першых іспанскіх і партугальскіх каланізатараў у Лацінскай Амерыцы, 2. бяды не чыніць, 3. дзяржаўнае кіраванне і яго органы, 4. сорт моцнай і тоўстай спецыяльна апрацаванай скуры, 5. між Берлінам і Мінскам, 6. адзенне, 7. нагрузка вялікай вагі, у якой... жар, 8. працуе ў кузні, 9. ялавая карова, 10. чалавек, які парушае закон і падлягае крымінальнай адказнасці.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 17 нумара**

Бочка, века, зад, ліга, поле, рыса, хала, шыба.

Рашэнне: **Добры сабака лепшы за ліхога чалавека**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Міхалу Байко** з Беластока.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

Пакідаеш кандыцыянаваную залу аэрапорта Ніной Акіна, выходзіш у філіпінскую ноч і адразу накідаюцца ўтраіх: шум, пах і духата! Прычым, усе адразу. Нават не ведаеш, хто з нападнікаў мацнейшы. Сташ ашаломлены ў натоўпе, які хвалямі нясецца то ў адзін, то ў другі бок. На шчасце таксісты ў Маніле не такія назойлівыя як, для прыкладу, у Тбілісі. Ёсць час заняць пазіцыі і абдумаць першыя крокі ў гэтым малоху (па розных дадзеных у Мэтра Маніле, тобок у комплексе Вялікай Манілы жыве ад 22 да 24 мільёнаў чалавек), або пачакаць выратавання.

Нам прыносіць яго дачка, якая ўжо звыш паўгода жыве там і працуе, і спрытна — наколькі гэта магчыма — перасоўваецца па вечна закаркаваных вуліцах. Балазе ноч, таму Убэр давозіць нас да яе кватэры за сорак хвілін. За акном лес імпазантных небаскробаў. Толькі пакінуўшы машыну бачыш, што мясцовы Манхэтэн дапоўнены тутэйшым каларытам: ледзь прыкрытымі сцёкавымі каналамі, бяздомнымі і іх правізорнымі бярлогамі, сродкамі транспарту паскручванымі-пасклейванымі невядома з чаго, якія займаюць кожны квадратны метр гарадской прасторы. І нават ноччу на Тафт авеню ў квартале Малатэ не сціхае шум. Гарачыня нам, якія прыехалі з марознай зімы, здаецца забойнай, а пахі наколькі экзатычныя, настолькі інтэнсіўныя. Дзень абяцае яшчэ больш інтэнсіфікаваць уражанні.

* * *

Тыцыяна Тэрцані — італьянскі пісьменнік, рэпарцёр, сінолаг — называе Філіпіны адной з найбяднейшых і найбольш сімпатычных краін у Азіі. Праўда, піша ён гэтыя словы ў 1984 годзе, калі яшчэ трымаецца ўлада Фердынарда Маркаса, год пасля забойства найважнейшага апанента дыктатара — Ніной Акіна. Сёння ягоным іменем названы найбольшы ў краіне аэрапорт, а помнік Акіна стаіць у цэнтральным сталічным Парку Рызаля. Тым не менш, ацэнка Тэрцані здаецца мне надзвычай актуальнай. Філіпінская дэмакратыя зноў апынулася на раздарожжы, дзякуючы папулісцкаму прэзідэнту Радрыга Дутэртэ. Бяда ўсюды навідавоку, але з другога боку, рэдка дзе ўбачыш столькі твараў асветленых шырокай усмешкай: малых і вялікіх, мужчын пад гальштукам і жанчын у фармальных кофтах, але таксама тых у бакаўняных майках, шортах і гумовых тапках, у вулічных барах і проста на тратуарах, у машынах і на велады мотатрохколках — транспартным сродку нумар адзін на ўсіх філіпінскіх астравах.

Вуліцы Манілы — гэта ўнікальны свет! Цяжка нават сказаць, ці цяжэй па іх ездзіць, ці хадзіць. Улічваючы памеры горада — ездзіць мусова. Але як гэта рабіць, калі горад практычна стаіць. Галоўная артэрыя: EDSA (*Epifanio de los Santos Avenue* — Праспект Аб'яўлення Святых), даўжынёю ў 24 кіламетры, па пяць палос у кожны бок, на здымках са спадарожніка явіцца найбольшым паркінгам у свеце. У такой сітуацыі згаданыя трохколкі (*tricycles*), якія крыху нагадваюць папулярныя ў нас калісьці матацыклы з калыскай, самы спрытны і самы даступны сродак транспарту. Некаторыя з маторам, звычайна вельмі гласным, іншыя на педалі, уплюшчваюцца практычна ўсюды. Замежніку, аднак, трэба падрыхтавацца на тое, што заплаціць больш за тутэйшага, бо для філіпінцаў явіцца ён мабільным банкаматам. Трэба таргавацца. Але лепш і выгадней узяць Убэр. Там адразу ведаеш, за колькі едзеш і больш-менш за які час даедзеш на месца. Мясцовыя кіроўцы неяк скокам-бокам, малымі цеснымі вулачкамі ўсё-такі прарываюцца і дабіраюцца да вызначанай мэты. Ёсць яшчэ тры лініі метро, якое падземкай не назавеш, бо цягнікі ідуць над вуліцамі (за выключэннем некалькіх багацейшых раёнаў, жыхары якіх дамагліся схаваць гэты шумны сродак транспарту пад зямлю). Па-за гадзінамі пік гэта даволі выгадны транспарт — трэба толькі пры кожным уваходзе на перон падрыхтаваць торбы для дэталёвай праверкі, — але раніцай і пасля абеду ў чарзе да гарадскога цягніка можна прастаяць гадзіну-дзве.

Самы танны і каларытны сродак транспарту на Філіпінах гэта джыпні (*jeepney*). Асацыяцыя з амерыканскімі джыпамі невыпадковая, бо гэты прадукт таленту і фантазіі мясцовых канструктараў, іканічная фатаграфія на вокладках шмат якіх турыстычных даведнікаў, спасылаецца на папулярнае аўто амерыканскай арміі. Арыгінальны джып, аднак, на патрэбы філіпінцаў замалы, дык яго пераробку выцягнулі ўдаўжкі, усталявалі драўляныя лаўкі ўздоўж бартоў, прыкрылі бляхай і размалявалі неверагодна фантастычнымі карцінамі. Джыпні маюць нумары і ходзяць па канкрэтным маршруце, але паколькі няма там дзвярэй, адно заход ззаду, то заскочыць усярэдзіну можна на кожным перакрыжаванні, абы было месца. Грошы перадаеш кіроўцу праз іншых пасажыраў. А калі хочаш пакінуць кузаў, то грукаеш кулаком у бляху над галавой і кіроўца спыняе машыну. У правінцыі джыпні маюць яшчэ месцы на даху, што асабліва на горскіх серпанцінах над абрывамі падымае адрэналін. Тым не менш, невядома як доўга яшчэ на філіпінскіх дарогах будзе можна сустрэць гэты цуд мясцовай інжынерыі, бо ўжо вядзецца публічная дыскусія пра іх забарону як неэкалагічнага (рухавікі — пераважна старыя японскія дызелі) і вельмі гаснага сродку транспарту. Філіпінцы аднак падазраюць, што справа тут не ў экалогіі, а ў грашах. Транспартныя кампаніі проста хочуць пазбыцца бяднейшай канкурэнцыі. Наўрад ці сённяшнім уладальнікам джыпні будзе па кішэні новы бус, а сотням тысяч пасажыраў — білет на праезд у гукаізаляваным і кандыцыянаваным кузаве.



# ч.1. Сталіца
# Філіпіны





Хадзіць па Маніле, як я ўжо намякнуў, таксама няпроста. Тратуары на вуліцах, праўда, ёсць, але такое ўражанне, што яны не для пешаходаў, а дзеля таго, каб было дзе спыніць машыны, трохколкі, мапеды, розныя вазкі, разбіць ларок з усялякім барахлом ці расставіць палявую кухню. Каб усё гэта абмінуць, трэба выходзіць на праезную частку і там лавіраваць паміж машынамі, якія на шчасце не могуць набраць вялікай скорасці. Ноччу да ўсяго пералічанага дадаюцца яшчэ бярлогі бяздомных, прама пад нагамі. Адрозніваюцца яны ад логаваў еўрапейскіх бамжоў тым, што там начуюць цэлыя сем'і, з дзяцьмі. Балюча глядзець. Бяздомныя дзеці ў Маніле гэта сапраўды вялікая сацыяльная праблема. Сустрэчны нарвежац, чыя жонка працавала з дзяцьмі вуліцы, казаў, што прыходзілася ёй займацца пакінутымі чатырохгодкамі. Гэта безумоўна азмрочвае цудоўны захад сонца над Манільскім залівам, які найлепш відаць з набярэжнага бульвара Рохас, які вечарам і ноччу аблюбавалі табуны бяздомных дзяцей і моладзі.

* * *

Вышэйнапісанае не тычыцца анклаваў багацця, такіх як квартал Макаці, пабудаваны ці не найбагацейшым філіпінскім кланам — сям'ёй Аяла. Там і тратуары роўныя ды чыстыя, паркі зялёныя, фантаны свежыя, а вулічны рух — акуратны.

Іншымі такога роду анклавамі з'яўляюцца шопінг-цэнтры. Яны, па-першае, вельмі велічэзныя, па-другое, знойдзеце там крамы з усімі сусветна вядомымі брэндамі. Па-трэцяе, тое, што гэта адасоблены ад навакольнай рэчаіснасці свет, нагадваюць вартавыя са зброяй, якія ля кожнага ўвахода заглядаюць у сумкі (як у метро). Але ўжо на выхадзе ніхто вас кантраляваць не будзе. Ды адтуль, здаецца, можна было б і не выходзіць. На такі *Mall of Asia* (найбуйнейшы гандлёвы цэнтр у Азіі, як з гонарам падкрэсліваюць філіпінцы) не ведаю, ці тыдня хапіла б, каб толькі абысці ўсе крамы, абмінаючы шырокім кругам рэстараны.

Хаця ў такіх цэнтрах прыемны халадок, рамантычная музыка і далікатны пах парфумы, то ўсё-такі нам цікавей на вуліцах. Абавязкова трэба наведаць гістарычны цэнтр Манілы — *Intramuros* — то-бок горад за мурам, старую цытадэль і прылеглыя да яе старыя вулачкі з каланіяльнай іспанскай забудовай і кафедрай. У найважнейшым храме горада відаць складаную гісторыю краіны і незайздроснае яе геаграфічнае месцараспалажэнне. Збудаваную ў канцы XVI стагоддзя кафедру давялося адбудоўваць восем разоў, бо або разбуралі яе частыя ў гэтым месцы землятрусы, або бамбардавалі амерыканцы ўперамешку з японцамі ў час Другой сусветнай вайны. Першай, драўлянай, не лічу, бо яе лёс завяршыўся банальна — згарэла ад свечкі.

Праз рэчку Пасіг — неверагодна брудную і смярдзючую — раскінуўся Чайнатаўн. Гэта найстарэйшае і найбольшае кітайскае паселішча па-за родным краем. Філіпінскія кітайцы гэта ў вялікай частцы хрысціяне, якія былі вымушаны ўцякаць ад ганенняў на радзіме. Яны вызначаліся адукаванасцю, прадпрымальнасцю, высокім грамадскім статусам. Але не жылі ў асобным анклаве, як для прыкладу ў Амерыцы. Жаніліся з мясцовымі тагаламі, прымалі ўдзел у барацьбе за незалежнасць Філіпінаў і будавалі поспех краіны. Паколькі на гэтым свеце не так і лёгка стварыць дабрабыт, дык яны дбалі пра тое, каб хоць на тым было ім утульна і камфортна. Грабніцы багатых кітайцаў так камфортныя, што пра гэта нават не можа марыць большасць філіпінцаў. Кажуць, ёсць у іх нават лазенькі, кухні з мікрахвалёўкамі і тэлевізары. Мы, аднак, не былі, не бачылі, бо замест вандроўкі па велізарных кітайскіх могілках Манілы выбралі выезд на філіпінскую правінцыю. Але пра гэта праз тыдзень.

(працяг будзе)

**Мікола ВАЎРАНЮК**
Фота **Аліны ВАЎРАНЮК**

ISSN 0546-1960